№ 2 (791) 16 студзеня 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



# 1863-2013

## Дык сейце ж, дзецюкі!

**Фотафакт**



Беларусы на Чэмпіянаце свету па гандболе атрымалі важную перамогу ў гульні з Паўднёвай Карэяй. Цяпер, каб трапіць у плэй-оф, трэба выйграць у Саудаўскай Аравіі. Вядзе каманду наперад суперзорка сусветнага гандбола Сяргей Рутэнка. Пасля трох сустрэч ён закінуў 30 галоў — больш за ўсіх.

## На цэнтральнай плошчы Барысава юнак займаўся сэксам з дрэвам

Арыштаваны юнак, які зладзіў занадта **брудныя танцы** на цэнтральнай плошчы.

У інтэрнэце з'явілася відэа, на якім нейкі малады чалавек у голым выглядзе скача на галоўнай плошчы горада Барысава.

«Як высветлілася, 2 студзеня два прыяцелі (16 і 21 год), выпіўшы на двух 0,7 літра віна, адправіліся на цэнтральную плошчу ў пошуках прыгод, — паведамляе прэс- служба УУС Мінаблвыканкама. — Будучы пад хмелем, у старшага нарадзілася ідэя праславіцца, танцуючы стрыптыз у грамадскім месцы. Пры гэтым, на ягоную думку, папулярнасць павінна была прыйсці да яго пасля паказу гэтага дзейства на сайце youtube.

Пад модную песню Gangnam style С. распрануўся дагала і на вачах шакаваных відавочцаў «здзяйсняў зваротна-паступальныя рухі тазам у бок туі». Пры гэтым яго сябар здымаў усё, што адбываецца, на камеру мабільнага тэлефона.

**АГ**

## Унучкі Лукашэнкі перамаглі на конкурсе казак па-беларуску

Дар'я і Наста Лукашэнкі — дочкі Дзмітрыя — занялі першае месца ў конкурсе «Гуляй, зіма, твая часіна!..» ў катэгорыі «Творчыя работы малодшых школьнікаў».

У журы былі рэдактар часопіса «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі, дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, казачніца Алена Масла.

«Вельмі добрая, па-дзіцячаму наіўная казка, — адзначыла дзіцячая пісьменніца Алена Масла. — Прычым відаць, што дзеці самі пісалі. Звычайна ж адразу разумееш, дзе настаўнік дапамагаў».

Другое месца заняў другакласнік Алесь Клікуноў, сын перакладчыка Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэя Клікунова. Клікуновы ў сям'і гавораць толькі па-беларуску.

**Радыё «Свабода»**

## Самыя папулярныя дзіцячыя імёны ў Мінску — Арцём і Марыя

Сярод рэдкіх імёнаў — **Вітаўт, Марсэль, Кевін.**

Мінчукі ў 2012 часцей за ўсё называлі дзяцей Арцёмамі, Аляксеемі, Марыямі і Ганнамі. Таксама сярод папулярных імёнаў — Дар'я, Сафія, Анастасія, Максім, Даніла, Уладзіслаў.

Рэдкія мужчынскія імёны — Вітаўт, Прохар, Марсэль, Кевін, жаночыя — Славяна, Любава, Агрыпіна, Селін.

Што тычыцца заключэння шлюбу, то ў Мінску летась афармілі адносіны больш як 15,5 тыс. пар, у тым ліку 1 227 шлюбаў былі заключаны з замежнікамі, 70 — з непаўнагадовымі.

**БелТА**

# Вялікае зблізку

Выйшла кніга Валера Каліноўскага «**Справа Бяляцкага**».




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Такія сюжэты кладуцца ў аснову раманаў і фільмаў. Бо гісторыя змагання за праўду, з дакладна акрэсленымі межамі дабра і зла, заўжды натхняе.

Перад Калядамі выйшла кніга «Справа Бяляцкага», напісаная Валерам Каліноўскім. Журналіст радыё «Свабода», ён вёў рэпартаж з судовых пасяджэнняў, перапісваўся з Алесем Бяляцкім у турме, гутарыў з яго роднымі і паплечнікамі, знаходзіў фотаматэрыялы. Яго дакументальная кніга — пакуль не раман і не кінасцэнар, але ідэальна сабраны для іх матэрыял.

Бяляцкі і яго «Вясна» — гэта тое вялікае, чаго мы часам не бачым у сваёй Айчыне, захапляючыся мужнасцю, напрыклад, Мандэлы ці Гавэла. Пацвярджэннем гэтаму можа быць ацэнка дзейнасці Бяляцкага «здалёк», якую дае ў прадмове да кнігі Карл Гершман, прэзідэнт Нацыянальнага фонду падтрымкі дэмакратыі (NED) ЗША.

«Нобелеўская прэмія — гонар, якога Бяляцкі цалкам варты, — піша ён. — Як і Лю Сяа-бо (кітайскі лаўрэат Нобелеўскай прэміі 2010 года, які сядзеў у турме, калі яму прысудзілі прэмію, і дагэтуль застаецца за кратамі), Бяляцкі — асоба вялікай адвагі і сілы духу. Яшчэ да арышту ён ведаў, што на яго завялі справу, і меў магчымасць уцячы за мяжу, але вырашыў не рабіць гэтага. ...Бяляцкі — адзін з нямногіх лідараў апазіцыі, хто аб'ядноўвае, а не раздзяляе».

Аўтар не заступае сабой галоўнага героя: многія рэчы агучваюцца ў кнізе ад першай асобы, ад самога Бяляцкага. Ён дае трапныя характарыстыкі следчым, яго апошняе слова працытаванае цалкам.

Аўтар фіксуе, як службісты робяць кар'еры, пераследуючы апанентаў улады: пасля справы Бяляцкага простая следчая ДФР Тацццяна Касынкіна стала вядучым інспектарам групы па зваротах грамадзян Следчага камітэта.

У кнізе пра Бяляцкага робіцца спроба сістэмнага аналізу праблемаў беларускай турмы, падмацаваная сведчаннямі іншых палітвязняў. Ад савецкага ГУЛАГа беларуская «зона» ўспадкавала скіраванасць на маральнае знішчэнне зняволеных, іх фізічныя пакуты і ўбоства побыту. Правы зняволеных — вялікае пытанне для Беларусі, якое ўздымаецца ў кнізе.

Не ўсе абставіны справы і адседкі, не ўсе думкі галоўнага героя змаглі прасачыцца ў кнігу праз падцэнзурную турэмную перапіску. Што ж, Алесь Бяляцкі яшчэ будзе мець магчымасць асабіста запоўніць прабелы. І хочацца, каб гэта адбылося як мага хутчэй. Бо апошняга элемента — хэпі-энду — не хапае «Справе Бяляцкага», кабператварыцца ў раман ці кінафільм.

**Сяргей Мікулевіч**

**Прэзентацыі кнігі адбудуцца:**

17 студзеня ў Мінску, у «Галерэі Ў» (пр.Незалежнасці, 37а). 18.00.

20 студзеня ў Гродне, па адрасе: Будзёнага 48а (зала ва ўнутраным дворыку). 12.00.

## Сцісла

**Мінскіх парашутыстаў пасадзілі на суткі**

Затрыманыя і асуджаныя парашутысты, што скокнулі з тэлевышкі ў Мінску на вуліцы Камуністычнай. Скачок адбыўся 12 студзеня. Хлопцы родам з Баранавічаў. Асудзілі іх на 5 сутак за незаконнае пранікненне на ахоўваны аб'ект.

**Макей прыняў дэлегацыю Рады Еўропы**

14 — 15 студзеня ў Мінску знаходзілася з візітам дэлегацыя Рады Еўропы на чале з кіраўніком кабінета Генеральнага сакратара РЕ Б'ёрнам Бергам.

**У Маскве прайшоў вечар беларускай мовы**

Быў аншлаг. Вечары беларускай мовы маюць праходзіць кожны панядзелак а 20-й у маскоўскай кавярні «Старбакс» (метро «Кузнецкі мост»). Арганізатарка — журналістка Кацярына Кібальчыч, аўтарка фільма «Беларуская мара».

**Алесь Белы запусціў «Гісторыю беларускай страўні»**

У інтэрнэце з'явіўся першы фільм з цыкла — «Мясныя прысмакі». Падрыхтаваныя і два наступныя — пра пажыўныя стравы (супы) і пра бульбу. Алесь Белы — вядомы гісторык і кухар.

**20-гадовая шведка ўгнала пасажырскі цягнік**

... і ўрэзалася ў жылы дом. У момант інцыдэнту ў невялікім трохкватэрным доме знаходзіліся пяць чалавек. На шчасце, ніхто не пацярпеў.

**Барменка ў Жлобіне гандлявала наркотыкамі на працоўным месцы**

Пры затрыманні ў бары быў знойдзены тайнік з марыхуанай. У кватэры 20-гадовай жанчыны быў знойдзены скрутак з 6 грамамі марыхуаны і пакет з высушанай марыхуанай — агульнай вагой амаль 400 грамаў.

**ЗП, ЮУ**

## Самае чытанае на nn.by за 9—15 студзеня

1. Лукашэнка: Пасол Расіі — «ну вельмі экзатычны чалавек»
2. Каліноўцы былі палякамі? Мураўёў і Каліноўскі — абое рабое?
3. На цэнтральнай плошчы Барысава юнак займаўся сэксам з дрэвам
4. Някляеў адказвае на пытанні Статкевіча: Стала ясна, што…
5. Карыстальнікі «Укантакце» апазналі хуліганаў, якія збілі інваліда ў метро
6. Інвалід «паводзіў сябе як свінота» — версія хуліганаў з метро
7. У метро збілі інваліда, які папрасіў саступіць месца.
8. З эфіру БТ знік вядучы ток-шоу «Форум» Дзмітрый Косцін
9. Міліцыя шукае юнага аферыста + фота
10. Страшнае ДТЗ пад Ваўкавыскам: жанчына ехала з памінак па брату

# Старыя адказы на новыя пытанні

Штогадовая **прэс-канферэнцыя** Аляксандра Лукашэнкі прайшла з удзелам незалежных журналістаў.


БЕЛТА

Для ўдзельнікаў прэс-канферэнцыі перад пачаткам зладзілі сціплы фуршэт: печыва, кава-чай і мінералка «Баравая». У жаночай прыбіральні — доўгая чарга. А як жа: «цярпець» давядзецца пяць гадзін. Жанчынкі ўсе ў сваточным, фарбуюць вусны ды папраўляюць валасы. Дзе-нідзе чуваць беларуская мова — імаверна, рэдактаркі рэгіянальных газет. А хтосьці гутарыць на «смачнай» трасянцы.

На ўваходзе ў журналістаў забралі мабільнікі — у абмен на пропуск у залу. Хтосьці з расійскіх журналістаў цікавіцца: ці будзе Марына Коктыш? Відаць, запомнілася яе «Дзякуй, я адмоўлюся» з мінулай прэс-канферэнцыі.

У залу запусцілі аб 11.20, Лукашэнка выйшаў на сцэну роўна а 12-й. Большасць прысутных пры гэтым узнялася з месцаў. Адразу бачна «чэсных» і «нячэсных» журналістаў.

У Лукашэнкі на стале — кубак з чаем. Цікава, што з пэўнай перыядычнасцю (за ўвесь час — разоў пяць) з-за кулісаў выходзіць сімпатычная афіцыянтка, якая мяняе астылы напой на гарачы, нават калі Лукашэнка да яго не дакранаўся.

350 прысутных журналістаў (прынамсі, гэтую лічбу агучвала БелТА) задалі ўсяго 46 пытанняў. Вялікага натоўпу каля мікрафонаў не назіралася: журналісты здолелі самаарганізавацца — клалі аркушы паперы з назвамі выданняў.

### Пачаў з пакаяння

На пачатку Лукашэнка агучыў некаторыя пытанні, якія публікаваліся ў незалежных СМІ напярэдадні. У прыватнасці, адно з іх, у якім яго заклікалі «пакаяцца» за тое, што робіцца ў краіне. Лукашэнка сказаў «каюся» і прызнаў, што сапраўды нясе адказнасць за ўсё, што ў краіне адбываецца.

### Дасталася Сурыкаву

Самыя рэзкія словы былі адрасаваны расійскаму паслу Сурыкаву. Пытанне ад тэлеканала Беларусь-1 тычылася адносінаў з Расіяй і каментароў пасла пра пастаўкі вуглевадародаў. «Ізноў ён пачынае разважаць пра гэтую мазню. Ну, вельмі экзатычны чалавек», — сказаў Лукашэнка. З яго словаў, усе пытанні па нафце былі вырашаныя з Пуціным, «а пасла захацелася выказацца... Іншы раз МЗСы і паслы мала ведаюць пра тое, што адбываецца між дзяржавамі, асабліва на самым высокім узроўні».

Тады ж Лукашэнка выказаўся і пра «саюзнае будаўніцтва»: «Быць саюзнай дзяржаве», — сказаў ён, але прызнаў, што грамадствы Беларусі і Расіі «не даспелі» да радыкальнага паглыблення інтэграцыі. «У тым, што Расея, нарэшце, цывілізаваным чынам хоча сабраць гэтыя дзяржавы, нічога дрэннага няма. Можа быць, Расеі хацелася б хутчэйшых крокаў, можа быць, радыкальных крокаў. Але ні Казахстан, ні Беларусь не пойдуць на гэта з бухты-барахты».

### Не верабей

Калі вы такія дэмакратычныя, нашто вы Лівію разбамбілі, Егіпет ракам паставілі, Ірак знішчылі?

### Стрыманы адказ місіс Клінтан

На пытанне пра заяву дзяржсакратаркі ЗША Хілары Клінтан, што яе «хвалюе» інтэграцыя на постсавецкай прасторы, Лукашэнка адказаў стрымана, з мінімумам антыамерыканскай рыторыкі. Ён адзначыў, што Беларусь, у сваю чаргу, хвалююць падзеі на «арабскай дузе», што Беларусь не пагадзілася перайсці на адзіную з Расіяй валюту, што наша краіна працуе над уступленнем у Сусветную гандлёвую арганізацыю.

### Коля-«спецназавец»

Не абышлося без пытанняў пра Колю. Газета «Зорька» запыталася: якія падарункі вы падарылі на Новы год сваім сямейнікам і што вам падарылі? Лукашэнка з жывасцю ў голасе расказваў, што загадаў, каб усе «чыноўнікі і нават жулікі на Новы год пайшлі да дзяцей», што сам наведае дзіцячыя дамы і дамы-інтэрнаты для старых, прычым без папярэджання. Што ягоны малодшы сын Коля накіраваў ліст Дзеду Марозу па электроннай пошце. А Дзед Мароз прынёс хлопчыку ў падарунак пнеўматычную зброю — як будучаму спецназаўцу.

### «Як прозвішча Новікава?»

Газета «Рэспубліка» спытала, як зменшыць бюракратызаванасць працы з замежнымі інвестарамі. Лукашэнка не пагадзіўся, што сістэма сапраўды забюракратызаваная. Кажа, што патрэбныя толькі інвестыцыі для мадэрнізацыі вытворчасцяў. А вось працоўных месцаў у краіне досыць.

Адказваючы, ён прыгадаў сітуацыю з «Камунаркай» і «Спартаком». Сярод іншага, адзначыў, што былога гаспадара фабрык Марата Новікава «Павал Ізотавіч» [Якубовіч, рэдактар «Советской Белоруссії»] абараняў, але рашэнне аб нацыяналізацыі прадпрыемстваў было правільным. «Павел Ізотавіч, скажыце, як яго, гэтага Новікава, прозвішча сапраўднае?» — пакепліваў Лукашэнка.

### «Бяляцкага выпусцілі ці не?»

Падчас адказу на пытанне «Еўрарадыё» пра дэклараванне чыноўнікамі прыбыткаў упершыню прагучала тэма палітвязняў. Лукашэнка перавёў гаворку на Бяляцкага, «ці як яго там». «Яго ўжо выпусцілі ці не?» — пацікавіўся кіраўнік дзяржавы.

### «Халіп адмовілася ехаць»

Тэма палітвязняў разгортвалася і ў наступных адказах. Агенцтва БелаПАН запыталася пра сённяшні статус і лёс Ірыны Халіп, жонкі Андрэя Саннікава. «Халіп адмовілася ехаць [за мяжу, разам з мужам]. Яна разумее, што тут яна пакутніца, а там нікому не патрэбна, таму яна і не паехала. Калі вы яе хочаце кудысьці забраць, заўтра ідзіце і забірайце», — казаў Лукашэнка.

Ірына Халіп пасля абвергла гэтыя словы: яна кажа, што ёй паранейшаму забаронены выезд з краіны.

### Настаўнікаў узнагародзяць, але і абавяжуць

У адказ на пытанне Марыны Золатавай з Tut.by Лукашэнка паабяцаў павышаць зарплату настаўнікам. Але не без «некаторых непапулярных мераў». Ён нагадаў, што ў настаўнікаў доўгія адпачынкі ўлетку. Нагадаў таксама, што настаўнік цяпер — яшчэ і палітычная фігура, і мог бы часцей праводзіць палітінфармацыі.

Заробкі сапраўды малыя, прызнаў ён. «Але ёсць пэўныя рамкі, пэўная шкала, за якую і я не магу выскачыць. А калі ашчадзім — аддамо».

Лукашэнка настальгічна прыгадаў, што, калі працаваў у школе, сам не пісаў да ўрокаў планаў.

### Прэтэнзіі да Еўрасаюза

У адказ на пытанне Алены Данэйкі з «Нямецкай хвалі», якія канкрэтныя прэтэнзіі ёсць да Еўрасаюза, Аляксандр Лукашэнка зноў вярнуўся да тэмы палітвязняў. Расказаў, што ў Беларусі былі масавыя беспарадкі, што вінаватыя ў іх сядзяць, што ў Нямеччыне немагчыма, каб кандыдаты ў прэзідэнты штурмавалі дзяржаўныя ўстановы. «Калі вы такія дэмакратычныя, нашто вы Лівію разбамбілі, Егіпет ракам паставілі, Ірак знішчылі?» — рытарычна пытаўся Лукашэнка.

Ён раскрытыкаваў таксама забароны на ўезд у ЕС, уведзеныя для ягоных паплечнікаў і сыноў, а таксама прадпрымальнікаў.

### «Плаціце грошы — правядзём раскопкі ў Курапатах»

Польскае радыё, як і год таму, пыталася пра Катынскі спіс польскіх палонных, якіх расстралялі на загад Сталіна. Ці можна арганізаваць раскопкі ў Курапатах, каб расставіць кропкі над «і»?

«Плаціце грошы, мы правядзём раскопкі, дзе вы лічыце патрэбным. Мы самі правядзём раскопкі, без польскіх археолагаў», — адказаў Аляксандр Лукашэнка.

**Аксана Рудовіч, Мікола Бугай**

### Даслоўна

**Пытанне «Нашай Нівы» было пра палітвязняў**

**АР:** Аксана Рудовіч, газета «Наша Ніва».Наша пытанне пра палітвязняў. Аўтуховіч, Бяляцкі, Дашкевіч, Статкевіч… Не так даўно іх наведаў апостальскі нунцый. Ці могуць яны выйсці на волю?»

**АЛ:** Могуць.

**АР:** Што для гэтага трэба зрабіць?

**АЛ:** Гэта другое пытанне?

**АР:** Гэта ўдакладненне першага пытання.

**АЛ:** Удакладненне першага... Што яны… что они должны сделать — это вы прочитаете в «Советской Белоруссии».

*(Чуецца голас вядоўцы — «четвёртый» — гэта значыць, каб пачынаў задаваць пытанне наступны журналіст, ля чацвёртага мікрафона.)*

**АЛ** *(працягвае, нягледзячы на вядоўцу)* Там всё написано, что они должны сделать, чтобы выйти. Сколько было этих… гэтых палітвязняў, скажыце? Вот вы насчитали... у меня даже справка была *(перабірае паперы на стале)*, перед пресс-конференцией как чувствовали помощники про этих… гэтых палітвязняў і журналістаў, якія дзе-та былі затрыманы. 4 или 5 человек было в списке у меня. А сколько их было? *(Пытанне адрасавана журналістцы.)* Назовите мне тогда — у нас же диалог с вами, мы ж договорились — назавіце мне палітвязняў, якія сёння выйшлі на свабоду.

**АР:** У нас не дыялог. Я задаю пытанне — вы адказваеце.

**АЛ:** А, вы не принимаете мое предложение?.. Палітвязні…Значит, могут ли они выйти на свободу — вы задали вопрос. Да, могут. При ка… пры якіх абставінах — чытайце «Советскую Белоруссию». Я ответил на ваш вопрос? Не ответил? То есть вы не удовлетворены: я ответил, но вы не удовлетворены, да? Тогда, наверное, надо пригласить опять генерального прокурора и изложить… По законам, назвать статьи закона, при которых они могут выйти на свободу. Ну, первое — отбудут срок — выйдут. Речь идет о досрочном освобождении, так я понимаю?

**АР:** У тым ліку.

**АЛ:** А, не, дык у тым ліку или досрочно?

**АР:** Ці могуць палітвязні ў бліжэйшы час выйсці на волю? Тыя, хто сядзяць у турмах, вашы палітычныя праціўнікі, якія знаходзяцца ў турмах?

**АЛ:** Вы знаете, я там для себя палітычных праціўнікаў не бачу.

**АР:** Сярод іх ёсць кандыдат былы ў прэзідэнты Мікола Статкевіч.

**АЛ:** Ну их было 10 человек, кандыдатаў, ну и что? Дык які ён для мяне праціўнік или соперник? Он для меня не соперник. Они могут выйти: отбудут срок — выйдут. Вы хотите сказать, могут ли они досрочно? Могут. Читайте закон. Там всё написано. Если вы хотите у меня спросить, могу ли я их освободить — тоже читайте закон. В законе всё прописано. И вы об этом знаете.

# Плошча: Хто перабдзеў, а хто недабдзеў

**Статкевіч з турмы ініцыяваў дыскусію аб падзеях 19 снежня 2010.**

Палітвязень Мікола Статкевіч даслаў ліст з турмы, дзе ставіць пытанні Плошчы-2010. Звяртаецца ён да Уладзіміра Някляева, ці Пракопавіча, як называе ён кандыдата. Дзякуючы гэтаму пісьму і наступнай дыскусіі, сталі больш зразумелыя некаторыя невядомыя моманты Плошчы.

Найперш Статкевічу цікава, чаму 19 снежня 2010 іх сустрэча з Някляевым адбылася на офісе «Гавары праўду», а не на нейтральнай тэрыторыі, як было дамоўлена раней.

Статкевіч піша, што прагназаваў сілавы разгон Плошчы, «баяўся прэвентыўнага затрымання». «Любы начальнічак у такой сістэме ведае, што лепш «перабдзець, чым недабдзець», — піша Статкевіч.

Зрэшты, аргумент спрэчны. Хай Дашкевіч і Лобаў шыфраваліся, але гэта не перашкодзіла арыштаваць юнакоў перад Плошчай. Статкевіча таксама маглі затрымаць у любым месцы.

«Не думаю, што напад «масак» рабіўся канкрэтна на мяне ці на некага. Салдаты, якія нападаюць у цемры, з фотаздымкамі не звяраюць. Больш за ўсё ад іх дастаецца таму, хто апынуўся ў «зоне канфлікту» — у месцы сутыкнення з кардонам. А я ішоў з Пракопавічам наперадзе», — адзначае Статкевіч.

І тут таксама можна заўважыць, што гукаўзмацняльную апаратуру маглі захапіць і ўдзень, і цішком, як гэта звычайна робіцца. Напад жа быў зладжаны «перад тэлекамерамі», а таму меў элемент застрашвання. Інфармацыя пра яго павінна была дайсці да людзей на Плошчы і стрымаць кагосьці з патэнцыйных удзельнікаў.

Кандыдат таксама адзначае, што перанакіроўваў людзей ад «Ружовага дома» (Адміністрацыі прэзідэнты — «НН») да плошчы Незалежнасці. Ён піша, не называючы прозвішчаў, што некаторыя кандыдаты, мелі на мэце ісці да тэлебачання на Камуністычнай. Раней такія сведчанні нідзе не з'яўляліся.

### «Стала ясна, што нікога мы не перахітрым»

Мы папрасілі Уладзіміра Някляева адказаць на некаторыя пытанні, пастаўленыя Міколам Статкевічам.

**«Наша Ніва»: Уладзімір Пракопавіч, чаму Ваша сустрэча са Статкевічам 19 снежня адбылася ў Вас на офісе, а не ў сакрэтным месцы?**

**Уладзімір Някляеў:** У нас былі дзве машыны з апаратурай. Паводле плана, адна машына павінна была ад'язджаць ад офіса, а другая — з таемнага месца. Але калі яшчэ ўдзень стала вядома, што тая сакрэтная машына забраная, то стала ясна, што нікога мы не зможам перахітрыць. Калі галасаваў, то заклікаў усіх прыходзіць да нашага офіса, каб адтуль разам з удзельнікамі, журналістамі, назіральнікамі рушыць на Плошчу.

Зразумейце, пытанне Плошчы было ў апаратуры. Калі б апаратура была, мы маглі б уплываць на працэс. Калі не, то быў бы натоўп. Так, паводле першага плана, машына ля нашага офіса на Калектарнай павінна была адцягваць увагу, а мы са Статкевічам удвух павінны былі з'явіцца з іншага боку. А сакрэтная машына мела заехаць на Кастрычніцкую проста з праспекта. Калі машыны не стала, то які сэнс быў ісці ўдвух?

**«НН»: Здаецца, Статкевіч лічыць паводзіны актывістаў «Гавары праўду» крыху легкадумнымі.**

**УН:** Цяпер усе кажуць, што абсалютна відавочным быў сілавы сцэнар падзей. Зусім не відавочны! Тады мы глядзелі зусім у іншым ракурсе. Ніхто з кандыдатаў не чакаў сілавога сцэнара.

**«НН»: Статкевіч піша, што некаторыя кандыдаты хацелі ісці да будынка ТБ на Камуністычнай. Што-небудзь ведаеце пра гэта?**

**УН:** Усе падзеі — і на Калектарнай, і на Плошчы, і падчас следства — мы павінны асабіста абмеркаваць са Статкевічам. Каб я сказаў, што ведаю, каб ён сказаў... Канечне, я разумею сённяшні стан Статкевіча. Яму хочацца атрымаць



Статкевіч да Плошчы дайшоў, хоць і быў збіты на подступах.

адказы на тыя падзеі. Але адказы трэба шукаць не ўнутры апазіцыі, а сярод тых, хто аддаваў загады.

**«НН»: Сярод іншага палітвязень піша, што адзін з кандыдатаў прасіў міліцыю прэвентыўна арыштаваць яго перад Плошчай.**

**УН:** Я не хачу быць бяздоказным. У маёй справе таксама былі намёкі на падобнае. Але нічога дакументальна пацвердзіць не магу. А некага проста так абвінавачваць... Навошта? Гэтых абвінавачванняў і так шмат.

**«НН»: Значыць, некаторыя адказы будуць дадзеныя толькі пасля вызвалення Статкевіча?**

**УН:** Безумоўна.

### Дык ці арыштавалі машыну?

Артур Папок падчас прэзідэнцкай кампаніі-2010 працаваў у штабе кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева. Менавіта ён быў за рулём бусіка з апаратурай, які быў затрыманы на вуліцы Калектарнай.

Спадар Папок адрэагаваў на словы Някляева, што другая машына з гукаапаратурай 19 снежня была затрыманая, таму было вырашана ісці з офіса «Гавары праўду».

«Я быў у групе, якая займалася камплектаваннем абедзвюх машын. Разам са мной там былі таксама Алег Мяцеліца, Павел Вінаградаў, Юрый Алейнік і пяты хлопец, забыўся ягонае прозвішча. Тую машыну мы пакінулі на вуліцы Убарэвіча ў Чыжоўцы», — кажа Артур Папок.

«Пасля трагічных падзей на Плошчы я тыдзень хаваўся па знаёмых. Тым не менш, я падрыхтаваў месца, куды можна перагнаць тую машыну з Убарэвіча. Ключоў у мяне не было, але я знайшоў чалавека, які прафесійна займаецца замкамі і мог адамкнуць дзверы і завесці аўто. Мы прыехалі ў Чыжоўку, пабачылі бусік. Але побач знаходзілася вельмі падазроная «Вольва». Мне падалося, што чалавек, які ў ёй сядзеў, пільнаваў наш бус.

Магчыма, гэта проста ў страху вочы вялікія. Але я жыў на вуліцы Убарэвіча і ведаў там ці не кожную машыну. Таму мы не сталі рызыкаваць».

Па словах Артура Папка, машына ў Чыжоўцы стаяла яшчэ ў студзені. Пра арышт ён кажа: «Яе забраў той пяты чалавек, якога я не помню прозвішча, пасля чаго прадаў з дапамогай майго знаёмага».

Кіроўца кажа, што прыйшоў у каманду Някляева, бо творы паэта вельмі паўплывалі на яго як на чалавека. «Мне цікава, што за паскуда ўліла ў вушы Някляеву гэтую няпраўду?»

Цяпер Артур Папок жыве ў Польшчы, куды эміграваў у хуткім часе пасля прэзідэнцкіх выбараў.

**Зміцер Панкавец**

# Пяць фактаў пра Валянціна Рыбакова

**Былы памочнік Лукашэнкі атрымаў нізкую пасаду.**

Валянцін Рыбакоў прызначаны намеснікам міністра замежных справаў. 8 студзеня Аляксандр Лукашэнка вызваліў Рыбакова ад пасады памочніка прэзідэнта. І адразу адбылося такое, даволі нізкае як для памочніка, прызначэнне.

### 1. Сувязны

Сайт WikiLeaks называў Валянціна Рыбакова сувязным Мінска са Злучанымі Штатамі. WikiLeaks надрукаваў з дзясятак дэпеш, дзе ўзгадваецца імя Рыбакова. Менавіта праз яго ішлі кантакты афіцыйнага Мінска з пасольствам ЗША. Такія ж кантакты ён, мусіць, меў і з еўрапейцамі. Менавіта ён фармуляваў пазіцыю Мінска па санкцыях ЕС і, з другога боку, па фармальных момантах адносін у межах СНД. Таксама з матэрыялаў WikiLeaks вынікала, што рашэнні прымаў асабіста Лукашэнка, а Рыбакоў толькі даносіў іх.

### 2. Копія Макея

Кар'ерны шлях Валянціна Рыбакова нечым нагадвае прыход Уладзіміра Макея. Таксама дыпламат, скончыў Лінгвістычны. Працаваў паслом па асаблівых даручэннях. Ад 2006 памочнік Лукашэнкі. Прычым на публічныя ролі ніколі не выходзіў. Зусім як Макей у свой час. Былыя калегі Рыбакова кажуць, што «ён з Макеем — аднаго поля ягады». Адзначаецца, што Рыбакоў — выдатны перакладчык, што лёгка тлумачыць доступ да кіраўніка краіны.

### 3. Інтэлектуал

«З ім цікава піць гарбату, — сказаў мне нехта чалавек, які разам з Рыбаковым працаваў у Міністэрстве замежных справаў. — Знойдзецца, пра што гаварыць», — дадае ён. Хоць другія людзі называлі Рыбакова інтэлектуальна трохі слабейшым за Макея.

### 4. Інкогніта

У сеціве няма звестак пра дату і месца нараджэння Валянціна Рыбакова, амаль няма ягоных фатаграфій. І гэта пра памочніка кіраўніка дзяржавы, прызначанага намеснікам міністра замежных справаў. Такое ўражанне, што краінай кіруюць сапраўдныя Шціпліцы. Калі сутыкаешся з такімі фактамі, разумееш, чаму ў свеце, у тым ліку і ў бізнэсколах, Беларусь разам з М'янмай называюць a highly secretive regime.





### 5. Who are you?

Адзіная з дзвюх даступных фатаграфій Рыбакова — з ААНаўскага пасяджэння. Valentin Rybakov — «гласіт» шыльда перад чалавекам з кемлівымі іранічнымі вачыма. А не Valancin Rybakou, як тое рэкамендуюць правілы транслітарацыі з беларускай мовы, зацверджаныя Акадэміяй навук. Калька з расейскай, на жаль.

**Мікола Бугай**

# Ці блізкая дэвальвацыя?

**Параўнанне** эканамічнай сітуацыі ў краіне сёння і напярэдадні абвальнай дэвальвацыі 2011 года.

За апошнія паўгода беларускі рубель дэвальваваўся на 5%. Панічныя настроі насельніцтва Нацбанку ўдалося збіць, і рубель працягвае адступаць павольна. Ці хопіць у эканомікі рэзерваў, каб засцерагчыся ад далейшага падзення? «Наша Ніва» параўноўвае сёняшнюю сітуацыю з той, якая склалася перад дэвальвацыяй 2011 года.

### Рост заробкаў

**2013.** Па звестках за лістапад 2012, сярэдні заробак беларусаў склаў $497. У снежні за кошт прэмій і надбавак ён вырас яшчэ больш. За паўгода даляравы заробак павялічыўся на 14%! Ці сталі настолькі ж лепей працаваць беларусы — рытарычнае пытанне.

**2011.** У красавіку 2011 года сярэдні заробак беларусаў складаў $513, канчаткова пераадолеўшы псіхалагічную мяжу. За паўгода заробак у даляравым эквіваленце тады падскочыў на 16%. Тым больш балюча было падаць: неўзабаве заробак абваліўся ледзь не удвая.

### Скупка валюты

**2013.** Атрыманыя грошы трэба кудысьці ўкладаць, і адзін з самых папулярных варыянтаў у беларусаў — назапашванне валюты. Чым большы заробак, тым больш удаецца адкласці. З пачатку восені насельніцтва набыло валюты на $650 мільёнаў больш, чым было прададзена. Яшчэ $210 мільёнаў скупілі юрыдычныя асобы, апроч банкаў.

**2011.** Адчуўшы пах дэвальвацыі, за студзень-красавік 2011 беларусы вынеслі з абменнікаў на $850 мільёнаў больш, чым здалі. У красавіку па валюту ўжо стаялі чэргі. Юрыдычныя асобы скупілі яшчэ $760 мільёнаў.

### Рост цэнаў

**2013.** Пасля святкавання Новага года пайшлі ў рост цэны. Іх стрымлівалі, каб уклясціся ў гадавы план па інфляцыі, а цяпер адпусцілі. У выніку за першы тыдзень студзеня яны выраслі на 1,5%. Агулам жа за апошнія чатыры месяцы — на 8%. Для суседніх краінаў такая лічба выглядала б катастрафічнай, але для Беларусі, у параўнанні з папярэднімі гадамі, нават пазітыўнай.

**2011.** У студзені-красавіку 2011 года інфляцыя трымалася на ўзроўні 11%, пасля чаго цэны рванулі ўверх.

### Золатавалютныя рэзервы

**2013.** Запасы дзяржавы стабільна трымаюцца на ўзроўні $8 мільярдаў. За кошт чаго? Нешта падкіне Расія, трохі набудуць аблігацый банкі, рэшту «растваральнікаў» купяць еўрапейцы. За апошнія чатыры месяцы запасы зменшыліся ўсяго на $30 мільёнаў.

**2011.** Гэта не ідзе ні ў якое параўнанне з сітуацыяй 2011 года. Тады за студзень-красавік рэзервы ўсохлі з $5 мільярдаў да $3,8 мільярда.



PHOTO BYMEDIA.NET

### Гандаль у мінус

**2013.** За апошнія чатыры месяцы пад ціскам Расіі зменшыўся да мінімуму экспарт «растваральнікаў» у Еўропу. Сальда замежнага гандлю таварамі і паслугамі, з улікам вернутых у расійскі бюджэт мытаў, склала мінус $1,8 мільярда, прычым з кожным месяцам сітуацыя горшая.

**2011.** За чатыры месяцы перад дэвальвацыяй краіна згубіла на гандлі ажно $3,2 мільярда. Абвал рубля выратаваў сітуацыю, але ненадоўга.

### Высновы: сімптомы тыя ж, але не такія запушчаныя

Ніводзін з эканамічных параметраў пакуль не «дацягнуў» да памятнага поствыбарчага перыяду. Аднак трывожныя тэндэнцыі — перадусім падзенне сальда замежнага гандлю — прымушаюць задумацца. Без дадатковых уліванняў звонку эканоміка не мае перспектываў, тым больш сёлета пачынаюцца сур'ёзныя выплаты па крэдыце Міжнароднага валютнага фонду. На працягу 2013 Беларусь павінна аддаць $1,6 мільярда, а налета яшчэ $1,4 мільярда, якія фактычна праелі перад прэзідэнцкімі выбарамі-2010.

**Ягор Марціновіч**

# «Белкааперацыя» робіць пакупнікоў пайшчыкамі

**Купляць тавары можна танней,** але з бюракратычнымі перашкодамі.

Беларускі рэспубліканскі саюз спажывецкіх таварыстваў («Белкаапсаюз») вяртае да савецкай сістэмы пайшчыкаў. Стаўшы «акцыянерам» гандлёвай сеткі «Родны кут», можна купляць тавары па зніжанай цане.

Абавязковы пай — 300 тысяч рублёў. Пасля яго ўнясення пакупнік атрымлівае зніжку. Напрыклад, на дзіцячыя тавары — 9%, на прамтавары — на 16%. Прадукты будуць таннейшымі на 10%.

Аднак не ўсё так проста. Пры куплі давядзецца прайсці бюракратычную працэдуру. Пайшчык у краму прыходзіць абавязкова з пашпартам, выбірае тавар, потым у касе райпа аплачвае тавар па зніжанай цане... І пасля атрымання адпаведнай «даведкі» можна забіраць у краме набытае. Варыянта, якія б прадугледзілі ашчаджэнне не толькі грошай, але і часу, яшчэ не прыдумалі.

**ЯМ, інф. «Звязды»**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Белкааперацыя» мае да 10 тысяч дробных крамак па краіне, пераважна ў вёсках. Яны ўсе будуць пераведзеныя пад брэнд «Родны кут»

**Фотафакт**




Еўрапейцам прадставілі новую банкноту вартасцю 5 еўра. Яна мае дадатковыя сродкі абароны: стужку-галаграму з выявай міфалагічнай Еўропы, пад розным вуглом змяняецца колер лічбы, якая абазначае намінал, — ад зялёнага да цёмна-сіняга. Новая банкнота ўвойдзе ў зварот 2 мая 2013. У бліжэйшыя гады абновяцца і іншыя еўрабанкноты.

## Сцісла

### З'явіліся першыя беларускія падгузкі

Кампанія «БелЭсма», зарэгістраваная ў свабоднай эканамічнай зоне «Магілёў», выпусціла першую партыю падгузкаў. Яны з'явіліся ў продажы ва Усходняй Беларусі. Вялікія ўпакоўка (58 падгузкаў) для дзяцей вагой 7—18 кг будзе каштаваць каля 110 тысяч. Грошы на вытворчасць даў турэцкі інвестар.

### Шакуцін пабудуе ў Маладзечне завод

На ім будуць рабіць дарожна-будаўнічую тэхніку — аўтагрэйдары і асфальтаўкладнікі. Прадпрыемства будзе ўваходзіць у структуру «Амкадора». Будаўніцтва і абсталяванне будзе каштаваць каля $50 мільёнаў. Працаўладкаваць плануюць 500 чалавек.

### Жылля пабудавалі менш, чым звычайна

За год у Беларусі было пабудавана 4,4 млн квадратных метраў жылля. Гэта найменшы паказчык з 2006 года. У «багаты» 2010-ы набудавалі аж 6,6 млн квадратных метраў.

### «Аэрасвіт» на мяжы банкруцтва

Адзін з найбольшых украінскіх авіяперавозчыкаў адмяняе рэйсы. Даўгі перавысілі $525 мільёнаў. У кампаніі плануюць пакінуць толькі 300 работнікаў з 2500 цяперашніх.

**ЯМ**

# Бойка ў метро: правілы выжывання

Урокі **нядаўняй гісторыі**.

2 студзеня ў вагоне мінскага метро адбылася рэзанансная падзея: збілі інваліда першай групы, 40-гадовага мужчыну. На сённяшні дзень у СМІ з'явіліся дзве дыяметральна процілеглыя версіі, расказаныя ўдзельнікамі. Маці збітага інваліда кажа, што ён ветліва папрасіў хлопца і дзяўчыну саступіць яму месца і нават паказаў пасведчанне аб інваліднасці, але малады чалавек накінуўся на яго і збіў. Па версіі ж саміх маладзёнаў, мужчына, які ўвогуле не меў візуальных прыкмет інваліднасці, паводзіў сябе груба, таму месца яны саступаць адмовіліся. Пасля гэтага ён учапіўся за твар хлопца і падрапаў яго. Малады чалавек ударыў у адказ, каб абараніць сябе.

Цяпер па факце збіцця ўзбуджана крымінальная справа, вядзецца следства. Ёсць абвінавачаны, хлопец 1995 года нараджэння. Апазнаная інтэрнаўтамі дзяўчына праходзіць па справе сведкай. Як паведамілі «НН» у Следчым камітэце, зараз якраз апытваюць сведкаў, якія знаходзіліся ў вагоне падчас бойкі. Напэўна, толькі яны могуць праясніць, што адбылося паміж «Кастрычніцкай» і «Плошчай Перамогі». А пакуль «НН» вырашыла разабрацца, што можна зрабіць, каб перадухіліць падобны канфлікт, і што рабіць, калі канфлікт адбыўся.

### Саступіць месца ці не — маральны выбар

У тую сераду ўсё пачалося з барацьбы за месца. Сапраўды, адпаведныя месцы існуюць у любым відзе дзяржаўнага маршрутнага грамадскага транспарту. У пастанове Савета міністраў «Аб некаторых пытаннях аўтамабільных перавозак пасажыраў» зафіксаваны абавязак пасажыраў «саступаць пры гарадской перавозцы пасажыраў у рэгулярных зносінах спецыяльна пазначаныя месцы для сядзення пасажырам з дзецьмі дашкольнага веку, цяжарным жанчынам, інвалідам і асобам сталага веку». У правілах карыстання метро ў Мінску таксама пазначана наяўнасць такіх месцаў. Але як патлумачылі «НН» у Мінскім метрапалітэне, выкананне гэтых патрабаванняў залежыць толькі ад асабістай культуры чалавека, яго выхавання, таму што ніякай законнай адказнасці за іх парушэнне не прадугледжана.

### Неадкладна паведаміць машыністу

Адзін з супрацоўнікаў аховы метрапалітэна расказаў «НН» алгарытм дзеянняў у выпадку канфлікту ў вагоне метро: «Канфлікты бываюць розныя. У некага ўпадзе ды разальецца пакет малака, дык і з гэтага будзе канфлікт. Але першае правіла — паведаміць машыністу праз кнопку экстранай сувязі. Машыніст паведаміць ахове метрапалітэна. Абавязкова трэба сказаць машыністу нумар вагона, які прынята адлічваць ад галавы цягніка. Таксама трэба даць трохі інфармацыі пра здарэнне. Бо бойка адзін на адзін і бойка трыццаці чалавек — розныя рэчы, і рэагаваць на іх будуць па-рознаму».

### Канфлікталогія: псіхолаг раіць

Псіхолаг Кацярына Бабаеўская на ўзоры сітуацыі са збіццём інваліда ў метро растлумачыла, як паводзіць сябе падчас канфлікту ў грамадскім транспарце.

**1) Агрэсія нараджае агрэсію.**

— Усе заўвагі трэба рабіць у карэктнай форме, — кажа яна. — Калі просьба грубая, у чалавека «запускаецца» абаронная рэакцыя не выконваць яе. Наадварот, заўвагі без агрэсіі часта спрацоўваюць. Нядаўна я ехала ў аўтобусе, і некалькі маладзёнаў гучна размаўлялі і лаяліся. Я папрасіла іх: «Маладыя людзі, ці не маглі б вы, калі ласка, размаўляць цішэй?» I такая заўвага падзейнічала. Пазбягайце агрэсіўных спрэчак — яны перарастаюць у «звалку», дзе ніхто нічога не чуе.

**2) Не працуе — адступі.**

— Калі на вашу заўвагу не рэагуюць ці яна выклікае негатыўную рэакцыю, заўсёды лепш адысці ўбок і не напружваць сітуацыю (калі не назіраецца нечага надзвычайнага). Лягчэй абмінуць канфлікт, чым уступаць у яго, бо могуць мець месца сур'ёзныя наступствы.

**3) Памер мае значэнне.**

— Група з колькаснай перавагай адчувае сілу, гэта трэба ўлічваць. Асабліва асцярожнымі трэба быць з п'янымі.

**4) Не заставацца абыякавымі.**

Пасля бойкі ў метро многія ганілі абыякавасць іншых пасажыраў, якія не ўмяшаліся. Па словах Бабаеўскай, у канфліктных сітуацыях нельга бяздзейнічаць.

— Можна проста саступіць месца замест таго, хто не жадае гэта рабіць, і тым самым прадухіліць канфлікт. Больш за тое, калі чалавек заступаецца, гэта можа матываваць заступіцца і іншых.

**Кірыла Хілько**



**Кадр з відэа камер назірання, па якім інтэрнаўты «апазналі» ўдзельнікаў бойкі. Як высветлілася пазней, двое з трох «апазнаных» былі ні пры чым.**

# Суд Лінча ў інтэрнэце

**Віртуальныя памылкі** могуць моцна сапсаваць рэальнае жыццё.

Збіццё інваліда ў мінскім метро, акрамя іншых наступстваў, паказала, як цесна віртуальны свет сёння пераплецены з рэальным і што памылкі віртуальныя могуць сур'ёзна папсаваць жыццё па іншы бок манітора.

Інцыдэнт адбыўся ў сераду ўвечары, 2 студзеня. А 10 студзеня на сайце ГУУС Мінгарвыканкама з'явілася паведамленне ад РУУС Партызанскага раёна Мінска з просьбай дапамагчы міліцыі ў росшуку меркаваных хуліганаў з фота і відэа двух хлопцаў і дзяўчыны.

Ужо праз некалькі гадзін інэрнэт-карыстальнікі «апазналі» іх з дапамогай папулярнай сацыяльнай сеткі «Укантакце». На наступны дзень міліцыя паведаміла пра затрыманне ўсіх траіх падазраваных па справе. Але аказалася, што з апазнаных інтэрнаўтамі падчас збіцця прысутнічала толькі адна асоба — дзяўчына. Два хлопцы ж апынуліся ні пры чым.

Гэта б засталося звычайнай памылкай, калі б спасылкі на асабістыя старонкі маладых людзей не былі апублікаваныя на буйных інтэрнэт-форумах. Тысячы інтэрнэт-карыстальнікаў, не звяртаючы ўвагі на прэзумпцыю невінаватасці, выказалі сваё меркаванне пра «хуліганаў» праз паведамленні «Укантакце».

«Наша Ніва» пагутарыла з Яўгенам (імя зменена па яго просьбе), адным з «апазнаных карыстальнікамі інтэрнэту хуліганаў», які зведаў увесь жах ананімнага гневу.

**«Наша Ніва»: Скажыце, як Вы даведаліся пра інцыдэнт у метро?**

**Яўген:** Даведаўся, калі пачалі прыходзіць паведамленні і лісты ад розных людзей і рэдактараў СМІ.

**«НН»: Вы знаходзіліся ў Мінску, калі адбылася бойка?**

**Яўген:** Не, мяне не было ў Мінску. Я сам з Гомельскай вобласці. Народ у нас такі — ім дай ахвяру, дык яны і накінуцца! Ды што казаць? Проста пачытайце каментары. Некаторыя толькі спрабавалі разабрацца, вінаваты я ці не. Але я мяркую, вы павінны разумець: абражалі, пагражалі...

**«НН»: А ў рэальным жыцці былі якія праблемы?**

**Яўген:** Не, канечне! Бо ўсе сваякі і сябры разумелі, што гэта не я зрабіў.

**«НН»: А з міліцыі Вам тэлефанавалі, выклікалі?**

**Яўген:** Мы самі першыя з імі звязаліся. Дакладней, мая маці патэлефанавала. На наступны дзеньператэлефанавалі і папрасілі прабачэння.

**«НН»: Пасля арышту сапраўдных вінаватых «цкаванне» ў інтэрнэце скончылася?**

**Яўген:** Не, паведамленні дагэтуль прыходзяць. Вы толькі напішыце, каб людзі разумелі, што нельга вінаваціць чалавека, тым больш якога яны не ведаюць. І калі не ведаюць усіх акалічнасцяў.

**Гутарыў КХ**

## Хлопец, які ўдарыў інваліда: Я раскаяўся і пайду прасіць прабачэння

Мінчука, які біў інваліда ў метро, **выпусцілі з СІЗА** пасля трох сутак за кратамі.

Пракурор прыняў рашэнне не затрымліваць яго і выпусціць пад падпіску. «Я раскаяўся ў тым, што зрабіў. Думаю хуткім часам паехаць да гэтага мужчыны прасіць прабачэння», — кажа Аляксей.

Але ж адзначае, што не змяніў сваёй версіі наконт таго, як усё адбылося. Матэрыялаў справы не бачыў, на допытах за трое сутак не быў. А яго сябры знайшлі дваіх сведак праз сацыяльныя сеткі. Дзве дзяўчыны, якія ехалі ў гэтым вагоне метро, пагадзіліся прыйсці ў міліцыю.

**«Еўрарадыё»**

# Купіла білет праз інтэрнэт, а ў цягнік не пусцілі

Сістэму электроннай рэгістрацыі чыгуначных квіткоў у Беларусі ўвялі паўгода таму. Аднак праблемы застаюцца дагэтуль.

У першы дзень новага года мне давялося скарыстацца прагрэсіўным новаўвядзеннем Беларускай чыгункі. Я прайшла так званую электронную рэгістрацыю і набыла квіткі праз інтэрнэт. Перавагі відавочныя: не трэба траціць нервы ў доўгіх чэргах касаў.

Тлумачу: проста набыццё квітка праз інтэрнэт само сабой не вызваляе ад неабходнасці пераводу яго з «анлайну» ў «афлайн». Усё роўна давядзецца адстаяць у адной чарзе з менш «прагрэсіўнымі» пасажырамі, каб зарэгістраваць ужо аплачаны квіток.

А электронная рэгістрацыя выглядае сапраўдным крокам наперад да сусветных стандартаў. Фактычна, усё, што вам трэба, — гэта запоўніць электронны бланк і націснуць кнопачку з адпаведнымі словамі. І вы аўтаматам трапляеце ў спіс, які пасля атрымліваюць праваднікі. І ісці ў касу ўжо не трэба. Такім чынам, дастаткова назваць праваднічцы сваё імя і пацвердзіць сваю асобу.

Менавіта з апошнім у мяне выйшла неспадзяванка. Набыла я два няшчасныя квіткі — сабе і сябру — са сваёй банкаўскай карткі, націснула «прайсці электронную рэгістрацыю». А потым высветлілася, што хлопец не меў пры сабе пашпарта. І хоць у правілах запаўнення значылася, што наяўнасць дакумента абавязковая, вырашылі, што «пракаціць» і без яго. Урэшце, калі купляеш квіток у касе, ён не патрэбны. Дый другі дзень новага года як-ніяк...

І вось табе маеш: маладая праваднічка пайшла на прынцып. І са словамі «я працу губляць не збіраюся» адмовілася пусціць хлопца на цягнік Магілёў—Мінск без пашпарта. Ані электронная копія дакумента на ноўтбуку, ані мае енкі не пераканалі адказную працаўніцу чыгункі.

Вось вам і сучасныя тэхналогіі: без пашпарта электронны квіток не спрацаваў. Пры гэтым палова пасажыраў з «рэальнымі» квіткамі, набытымі ў касе, ехала без дакументаў.

Атрымліваецца парадокс: мэта электроннай рэгістрацыі — максімальна спрасціць працэдуру набыцця білетаў, зменшыць чэргі і як вынік ашчадзіць грошы за кошт скарачэння штата касірак.

Але з фармальных прычын гэтая працэдура застаецца складанай. Незразумела, чаму нельга спрасціць правілы запаўнення электронных квіткоў. Навошта для рэгістрацыі ў межах краіны запаўняць пашпартныя звесткі? Няўжо, каб трапіць з Магілёва ў Мінск, чыгунцы важныя ваша імя па бацьку і дата нараджэння?

У выніку я паехала ў Мінск, хлопец застаўся ў Магілёве. Настрой быў сапсаваны. Ды яшчэ ў вагоне праваднiца і яе начальніца тыкалі пальцамі ў «Інструкцыю па запаўненні электронных білетаў», маўляў, не наша гэта прыдумка. «Мы за тое, каб гэту рэгістрацыю ўвогуле адмянілі», — казала адна з іх. «З ёй толькі галаўны боль: чалавек зробіць у квітку дзве абдрукоўкі — мы ўжо мусім не пускаць».



Міжволі ўзгадалася, як два гады таму на вакзале ў нямецкім Дзюсельдорфе, да майго здзіўлення, не было ніводнай касы. Замест іх — банкаматы па продажы квіткоў, аплата — карткай ці гатоўкай. Не сустрэла я там і праваднiц.

P.S. Якое ж было здзіўленне праваднiцы, калі на пероне ў Мінску мяне чакаў... мой сябар, якога яна не пусціла ў вагон. Ён злавіў маршрутку на вакзале.

**Аксана Рудовіч**

## «Нягледзячы на значную працу, праведзеную па дадзенай крымінальнай справе…»

Справу супраць віцебскіх следчых, якія сілай змушалі падлеткаў агаварыць сябе, спынілі.

«Нягледзячы на значную працу, праведзеную па дадзенай крымінальнай справе, і працягласць расследавання, з сабраных доказаў следству не прадставілася магчымым зрабіць выснову пра наяўнасць складу злачынства ў дзеяннях супрацоўнікаў унутраных спраў».

Сухая канцылярская адпіска ўмясціла ў сябе паўтара года следства па незвычайнай справе: на лаве пасудных маглі апынуцца віцебскія міліцыянты, якія ў 2009 годзе сілай змушалі трох падлеткаў узяць на сябе віну за забойства. «НН» неаднойчы пісала пра гэтую рэзанансную гісторыю. Аднак абвінавачаныя ў катаваннях не толькі не трапілі пад суд, але і выраслі за гэты час па службе.

Напрыклад, Юрый Шчацько, які ў 2009-м кіраваў следчай групай, яшчэ да сканчэння расследавання па факце катаванняў быў прызначаны намеснікам начальніка Следчага камітэта па Віцебскай вобласці. Кар'ернаму росту не перашкодзіла папярэджанне ад Генпракуратуры за няпоўную службовую адпаведнасць.

«А перад намі, нашымі дзецьмі, перад школай, дзе яны вучыліся, ніхто нават прабачэння не папрасіў», — абураецца Хачатур Хачатуран, чый сын, Аляксандр Логінаў, прайшоў праз пекла турмы.

Бацькі падлеткаў атрымалі толькі адпіскі — больш за сотню фармальных адказаў з пракуратуры і Адміністрацыі прэзідэнта. Бацькі задаюцца пытаннямі: выходзіць, што пагражаць пісталетам непаўналетняму, збіваць яго, садзіць у камеру да рэцыдывістаў, трымаць у псіхдыспансеры — не злачынства?

Саша Логінаў цяпер служыць у войску ў рэзерве, на днях прымаў прысягу.

«Я ганаруся сынам. Ён столькі перажыў, але застаўся моцным. Працуе, завочна вучыцца. З гонарам служыць краіне», — расказвае бацька.

**Сямён Печанко**

## Аблавы ў гей-клубах у Мінску і Віцебску

Міліцыянты зрабілі дзве аблавы на клубы, дзе сабраліся прадстаўнікі ЛГБТ-супольнасці, паведаміў старшыня праваабарончага праекта «Гей-Беларусь» Сяргей Андросенка, які арганізоўваў гэтыя мерапрыемствы.

Першы інцыдэнт адбыўся ўночы з 11 на 12 студзеня ў мінскім клубе «6А». Працаўнікі міліцыі ўварваліся ў клуб, заблакавалі выхад і перапісалі звесткі ўсіх, хто там быў.

У ноч з 12 на 13 студзеня аналагічны выпадак адбыўся ў віцебскім клубе «XXI стагоддзе». «Перапісвалі звесткі ўсіх, хто быў у клубе, патрабавалі ў кожнага назваць месца жыхарства і працы, здымалі ўсіх на відэакамеру. Паводзіліся даволі груба», — расказвае актывіст.

**БелаПАН**

## У метро чарговая сутычка беларусаў з туркменамі

Яна здарылася ў нядзелю ўвечары на станцыі «Кастрычніцкая».

Недалёка ад эскалатараў біліся маладыя людзі «ўсходняга выгляду» і беларусы. Першых было 7–8 чалавек, апошніх — менш. Як паведаміў адзін з чытачоў, міліцыянтаў не было відаць, раздымалі хлопцаў дзве супрацоўніцы метро. У выніку беларусы паехалі на эскалатары ўверх, а замежнікі засталіся на платформе.

Нагадаем, нядаўна ў метро адбылася бойка беларусаў і «асобаў каўказскай нацыянальнасці». Гэты канфлікт узнік увечары 31 снежня ў вагоне на другой лініі метро. Аднак міліцыя не палічыла той інцыдэнт групавой бойкай, бо ўдзельнікі не мелі прэтэнзій адзін да аднаго.

**Паводле Tut.by**



## На Раство мітр. Філарэт вітаў людзей: «Хрыстос уваскрос!» Гэта правільна?

На Раство старыя людзі вітаюць адзін аднаго: «Хрыстос нарадзіўся!» А адказваюць: «Яго славім!» або «Бог аб'явіўся!» А вось знаёмыя ўсім словы «Хрыстос уваскрос!» у гэты дзень гучаць вельмі нечакана.

Аднак менавіта так звярнуўся да вернікаў мітрапаліт Філарэт 8 студзеня на сустрэчы з выхаванцамі дзіцячых дамоў і інтэрнатаў, якая адбылася ў рамках праекта «Калядная ёлка — нашы дзеці». Дзеці дружна адказалі «Сапраўды ўваскрос!». Але многія ўсё адно падумалі, што адбылася нейкая памылка.

Прэс-сакратар Мінскага Епархіяльнага ўпраўлення, протаіерэй Сяргей Лепін упэўнены, што ніякай памылкі ў словах мітрапаліта няма.

«Серафім Сароўскі хрыстасаваўся кожны дзень, незалежна ад пары года. Мітрапаліт, напэўна, ад лішку пачуццяў вырашыў павітаць людзей гэтым словам, хоць гэта не калядное вітанне, — адзначае Сергій Лепін. — Часам так бывае: у хвіліну асаблівага захаплення людзі вітаюць адзін аднаго велікодным воклічам».

**Відэа — на Naviny.by**

# Беларускі футбаліст Вабга Ц'енчэн стаў Цярэнціем Луцэвічам

Абаронца мінскага «Дынама» Вабга Ц'енчэн перайшоў у арэнду ў «Гомель». Аднак гэта не адзіная навіна, звязаная з футбалістам.

Ад нядаўняга часу Вабга стаў Цярэнціем Луцэвічам. Спартовец памяняў імя на «больш звыклае для беларускага вуха». Прозвішча ён узяў у бабулі, а імя далі пры хросце.

Вабгу Ц'енчэну 21 год. Нарадзіўся ён у Камеруне, у сям'і беларускі і камерунца. Аднак у хуткім часе жанчына прывезла хлопчыка на Радзіму, хаця сама вярнулася ў Афрыку. Выхоўвала Вабгу бабуля — выкладчыца французскай мовы.

У адным з інтэрв'ю футбаліст казаў: «Ведаю, што мой бацька памёр, а маці пераехала назад у Беларусь, але сустракацца са мной у яе няма жадання... Што ж, гэта яе выбар».

Вядома, што Вабга вучыцца на эканамічным факультэце БДУ, прычым паступаў туды на агульных падставах. Пра расізм у Беларусі ён кажа: «Не сказаў бы, што пакутую, але заўсёды ёсць людзі, якія коса глядзяць на цябе».

Ц'енчэн выступаў за юнацкую зборную Беларусі па футболе.

**Зміцер Панкавец**



# Расійская армія адмаўляецца ад ануч — знакамітых «парцянак»

**Расія мадэрнізуецца:** армія да канца гэтага года адмовіцца ад ануч як элемента формы вайскоўцаў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Анучы, па-расейску «портянкі», былі ўведзеныя яшчэ пры цару і добра знаёмыя не толькі кожнаму расійскаму мужчыну, але і ўсім народам-сатэлітам, у тым ліку і беларусам, якія пастаўлялі салдат у расійскую, а пасля савецкую армію.

Як і кірзачы, яны заставаліся ў гардэробе расійскіх салдат, нават калі ўсе астатнія арміі свету, акрамя паўночнакарэйскай, перайшлі на шкарпэткі і берцы, якія забяспечваюць лепшы камфорт нагі.

Цяпер расійскім салдатам і афіцэрам будуць выдавацца аднолькавыя камплекты з 19 прадметаў. На форму вернуцца пагоны, а вось зоркі на іх будуць не металічнымі, а пластыкавымі або нашытымі.

Тэарэтычна ў камплект уваходзіць рэмень, аднак у паўсядзённым жыцці выкарыстоўваць яго не будуць і заменяць на ліпучкі.

У вайскоўцаў будуць флісавыя непрамакальныя курткі і вятроўкі, а ў выпадку неабходнасці пад іх можна падапранаць уцепленыя камізэлькі.

У Беларусі ў арміі ад анучаў канчаткова адмовіліся зусім нядаўна. У некаторых часцях яны заставаліся «на ўзбраенні» да мінулага лета.

**Сяргей Гезгала**

«Каля 5 гадоў таму было прынятае рашэнне аб пераходзе на юхтовыя чаравікі з высокімі берцамі і шкарпэткі. І на працягу 2-3 гадоў мы цалкам перайшлі на новы абутак», — паведаміў «НН» прэс-сакратар галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы Мінабароны Вадзім Макараў.

Новы абутак для войска вырабляюць гродзенская абутковая фабрыка «Нёман-сплаў» і Гомельская абутковая фабрыка «Труд-Стэцкевіч-Адамантан». Шкарпэткі для вайскоўцаў, як і іншыя элементы формы, вырабляюць прадпрыемствы «Беллегпрама».

Вайскоўцы часам крытыкуюць берцы за якасць матэрыялу, маўляў, працякаюць, а ўзімку холадна.

«Працэс абнаўлення ідзе. Мы рэагуем на крытыку, улічваем меркаванне тых, хто носіць форму», — падкрэсліў Вадзім Макараў.

**Сямён Печанко**



**Фотафакт**

### Вясёлкавае іглу са скрынак з-пад малака

Новазеландскі інжынер Дэніэл Грэй выправіўся ў Эдмантан (Канада), каб прабавіць са сваёй дзяўчынай і яе бацькамі пяць тыдняў. Ці то дзеля забавы, а можа, каб праверыць здольнасці будучага зяця, яго цешча прапанавала яму пабудаваць іглу, прычым у якасці будматэрыялу былі абраныя ўпакоўкі з-пад малака, якія вынаходлівая матуля пачала збіраць за некалькі месяцаў да гэтага. Жаніх не падкачаў!



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Акупанты і «дэзерціры»

Напачатку студзеня стала вядома, што Літва выплаціць грашовую кампенсацыю тым сваім грамадзянам, якія пасля ўзнаўлення 11 сакавіка 1990 незалежнасці рызыкоўна ўхіляліся ад службы ў савецкай арміі ці былі за гэта пакараны зняволеннем. Ва ўсіх паведамленнях і шматлікіх асуджальных каментарах у рунэце і байнэце слова «дэзерціры» — без усялякіх двукоссяў. Я пацікавіўся, колькі ж у сёняшняй Літве такіх грамадзян. 1 562...

І вось субота, 13 студзеня 2013... Я пішу гэтыя нататкі, а перад вачыма гатэльны нумар недзе на ўскрайку Масквы. Знясілены дзённымі клопатамі, я валюся на ложак, уключаю тэлевізар і бачу, як шалёна, бы нейкая дагістарычная пачвара, круціць гарматай танк, а вайсковец у касцы крушыць натоўп аўтаматам. «Карцінка» знікае, і вядучы праграмы «Время» з паказна-стрыманым абурэннем паведамляе пра нейкага палкоўніка Тарханава, каторы быццам звярнуўся да савецкіх вайскоўцаў з заклікам не страляць у людзей і пайсці ў казармы. «Па афіцыйнай інфармацыі, — гаворыць вядучы, — такога афіцэра ў складзе Віленскага гарнізона няма...»

14-га, на дзень старога Новага 1991-га, я іду да галоўнага рэдактара газеты, у якой на той момант адпрацаваў 15 гадоў. У кішэні — ліст ад галоўнага рэдактара вядомага часопіса, куды мяне запрасілі працаваць. Мне падабаецца гэты часопіс, які стаўся вельмі папулярным, прапаную працаваць у ім я нават палічыў падарункам лёсу...

«Ну, як табе Вільнюс?» — пытаецца, адказаўшы на прывітанне, галоўны. Я ведаю, што ў Віленскім універсітэце працаваў пасля вайны ягоны бацька, а сам ён вучыўся тамака на журфаку. «Адклічце Пятрова, — кажу я, — ён хлусіць...»

У Пятрова мянушка «маскіт». Маленькі, хударлявы і вастраносы, ён носіць абутак на высокіх абцасах і сапраўды нагадвае маскіта, калі, трохі ўзняўшыся на тых абцасах, наўпрост кідаецца на высокіх жанчын. Нават чуецца нейкае «з-з-з-з...»

«Хлусіць? — перапытвае галоўны. — А чаму ты ў гэтым упэўнены?» «Таму што Гедымін адмаўляецца супрацоўнічаць з ім». — «Гедымінасу няёмка, ён жа літовец...» — «Няёмка пісаць лухту...»

Галоўны накіраваў Пятрова ў Вільню аж з Архангельска, дзе той — уласны карэспандэнт. У Вільні ён селіцца ў афіцэрскім інтэрнаце і, не выходзячы адтуль, джаліць і джаліць — робіць сваю «маскітную» справу. Гедымінасу ледзь не плача: газета штодня друкуе інфармацыю пра тое, як няўдзячныя літоўцы

### «Гедымінасу няёмка, ён жа літовец...»

хочуць павыкідаць з Літвы ўсіх расейцаў, зневажальна абзываюць іх акупантамі, а савецкія вайскоўцы, рызыкуючы жыццямі, ахоўваюць канстытуцыйны лад... Адзінае, што па праўдзе, гэта «акупанты». Але ў інтэрпрэтацыі Пятрова слова ўздзейнічае на чытачоў газеты, а іх на той час мільёны, што тая чырвоная ануча на быка: газета заваленая асуджальнымі водгукамі. Бы сённяшні інтэрнэт...

«Вось бачыце, — я разгортваю апошні нумар, — і Пятроў піша, што палкоўніка Тарханава ў складзе Віленскага гарнізона няма». «А што, ёсць?» — «Не ведаю. Але думаю, што ёсць...»

Лезу ў кішэню. «Да вас ліст...» Ён доўга чытае яго, то трымаючы ў руках, то паклаўшы на стол. А што чытаць? Адзін сказ: «Адпусціць...» «Навошта гэта табе?» — даволі змрочным позіркам паверх акуляраў утаропліваецца ў мяне галоўны. І раптам сыпе кампліментамі ды абяцаннямі, што зусім нечакана...

«Адклічце Пятрова!» — паўтараю я, адчуваючы сябе сапраўдным шантажыстам...

З усіх абяцанняў — падвысіць заробак, зменшыць адпрацоўку і друкаваць усё, што напішу, — галоўны выканаў толькі адзінае: адклікаў Пятрова. У газету пайшла дакладная інфармацыя ад Гедымінаса...

Праз пяць месяцаў, цёплым травеньскім надвячоркам, я апынуўся на сямейным свяце ў сяброў, што жывуць пад Мінскам. «Валодзя, — знаёмячыся, працягнуў руку невысокі, сярэдняга веку, з прыгожым адкрытым тварам, чалавек, — Тарханаў...»

Калі вакол тэлевежы пачалася страляніна, палкоўнік Тарханаў пайшоў на Літоўскае радыё. Праз колькі хвілін пра ягоны заклік да савецкіх вайскоўцаў не страляць і вярнуцца ў казармы паведамлялі ўсе радыёстанцыі і тэлеканалы свету. Акрамя маскоўскіх: «Такога чалавека няма...»

Пачуўшы гэта, літоўцы схавалі яго на далёкім хутары. Бо калі чалавека няма, то яго, магчыма, і не будзе...

Але ён быў і ёсць — расейскі хлопчык з асеўшай у Сібіры рэпрэсаванай сям'і, былы савецкі палкоўнік, што «дэзерціраваў» з СССР разам з Літвой...

Нейкі час займаўся бізнесам, а потым яны разам з жонкай Ісідорай, адной з найлепшых у Літве знаўцаў французскай мовы, усе грошы і ўсю душу ўклалі ў стварэнне нядзельнай школы і летняга лагера ў праваслаўным кляштары, што здаўна месціцца ў Міхнове пад Вільняй. І ўжо колькі год жывуць і працуюць там, вяртаючы да радасцяў жыцця дзетак з усёй Літвы і з-за яе межаў, якім дасюль гэта жыццё радасцяў не прыносіла.

Але гэта — ужо іншая гісторыя, іншы яе працяг...

# Каліноўскі, герой Беларусі

Правадыр Паўстання 1863-га пайшоў на верную смерць, але **стаў нацыянальнай легендай**.

150 гадоў назад, у ноч з 22 на 23 студзеня 1863 года, успыхнула паўстанне супраць Расіі. У Беларусі яго ўзначаліў яго народжаны каля Белавежскай пушчы Канстанцін Каліноўскі.

Нас аддзяляе ад яго 150 гадоў — не такая і вялікая часавая адлегласць. Каб лёс і гісторыя скласціся інача, Каліноўскі, народжаны ў 1838-м, мог бы дажыць да незалежнасці Беларусі. Мо і доля Беларускай Народнай Рэспублікі была б інакшай, каб у 1918-м на чале яе стаў патрыярх вызвольнага руху, жывая легенда — 80-гадовы Начальнік паўстання.

Каліноўскі — унікальная асоба. Ён быў ваяром і інтэлектуалам, ваяром-інтэлектуалам. Ягоная «Мужыцкая праўда» была першай, ашаламляльнай на той час спробай рабіць перыядычнае выданне па-беларуску.

Рэакцыя царскіх уладаў на паўстанне стварыла перадумовы для развіцця беларускага нацыяналізму.

Легенда Каліноўскага жыве. Імем Каліноўскага назвала Кастрычніцкую плошчу моладзь у часе пратэстаў пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006-га. Хлопцы робяць татуіроўкі з партрэтам «Канстанціна Вікенція». Чаму? Паспрабуем разабрацца.



Шэсце беларускай моладзі ў Вільні ў дзень памяці Каліноўскага — 22 сакавіка: ад Лукішскага пляца, дзе ён быў пакараны смерцю, да магілы на Замкавай гары.

## Смалянчук: Словы пра «сякеру над калыскай шляхецкага дзіцяці» прыпісалі Каліноўскаму ворагі

«Каліноўскі не змагаўся за Беларусь і ніякі ён не нацыянальны герой» — пад такім загалоўкам на сайце Польскага радыё была змешчаная гутарка з выдаўцом Віктарам Хурсікам. Побач з ідэямі бясспрэчнымі, аб тым, што варта шанаваць памяць усіх ахвяраў паўстання 1863 г., В.Хурсік выказаў у інтэрв'ю і думкі, якія пярэчаць таму разуменню Каліноўскага, якое было, напрыклад, у савецкіх падручніках. Па каментар мы звярнуліся да доктара гістарычных навук Алеся Смаленчука.

### 1. Ці паўплывала паўстанне на фармаванне беларускай нацыі і дзяржаўнасці?

**Віктар Хурсік:** Каліноўскі як выказнік мараў беларускага народа з'явіўся ў савецкай гістарыяграфіі. Насамрэч у 1863 годзе ніякай гаворкі пра Беларусь і беларускую нацыю не было і гэта падкрэслівалі самі памешчыкі. Яны запісвалі сябе палякамі, а сяляне — тутэйшымі. У той час у беларусаў не было нацыянальнасці. Таму нельга казаць, што паўстанне Каліноўскага заклала нейкі падмурак дзяржаўнасці альбо, прынамсі, яго аднаўлення.

**Алесь Смалянчук:** Каліноўскі, які нарадзіўся ў першай палове XIX стагоддзя, не мог змагацца за беларускую нацыянальную ідэю, бо нацыянальнага руху тады не існавала. Эпоха нацыяналізму толькі распачыналася. Але Каліноўскі з яго беларускай мовай «Мужыцкай праўды», з апантанасцю лёсам Літвы-Беларусі, стаяў ля вытокаў беларускай ідэі. У палітычнай традыцыі ён быў адным з апошніх «ліцвінаў» і адным з першых беларусаў. Чаго варты хаця б той факт, што развітальныя «Лісты з-пад шыбеніцы» з вершам да каханай дзяўчыны Каліноўскі напісаў па-беларуску.

Каліноўскі мог не ўсведамляць сябе беларусам, назва «беларус» не мела тады агульнанацыянальнага значэння, была хутчэй рэгіянальнай. Але постаць Каліноўскага, яго вобраз у мастацтве, музыцы, літаратуры адыгралі вялізную ролю падчас фармавання нацыянальнага руху XX стагоддзя. Можна сказаць, што беларускім нацыянальным героем Каліноўскі стаў пасля смерці. (Згадаем: у 2006 годзе, падчас пратэстаў у часе прэзідэнцкіх выбараў, удзельнікі намётавага лагера называлі Кастрычніцкую Плошчай Каліноўскага.)

### 2. Ці можна Каліноўскага параўноўваць з бальшавікамі?

**Віктар Хурсік:** Каліноўскі быў сацыял-дэмакратам. У яго не было нацыянальнай ідэі. Дарэмна, што зараз яго імкнуцца прадставіць нацыянальным героем Беларусі. Ён быў такім жа героем, як і рэвалюцыянеры 1917 года.

**Алесь Смалянчук:** Называць Каліноўскага сацыял-дэмакратам, параўноўваць з бальшавікамі — поўная лухта. Уяўленне пра сацыял-дэмакратычныя погляды Каліноўскага з'явілася ў савецкі час, калі яго, змагара супраць расейскага царызму, трэба было неяк упісаць у савецкую ідэалагічную схему.

Бальшавікі дзейнічалі ва ўмовах нацыянальнага Адраджэння прыгнечаных імперыяй народаў. Нацыяналістаў успрымалі як ідэйных праціўнікаў дактрыны «сусветнай рэвалюцыі». Каліноўскі жыў у іншы час. Але ён адчуваў набліжэнне эпохі нацыяналізму і сам гэтаму спрыяў.

### 3. Ці многа было паўстанцаў?

**Віктар Хурсік:** Сілам, якія падаўлялі паўстанне, было выгадна, каб гэтых паўстанцаў на паперы было больш. Яны маглі накладаць кантрыбуцыі на маёнткі, рэквізаваць маёмасць, нажываліся на гэтым, і гэты клубок каціўся аж но да 1869 года. Лічбу 77 тысяч я б паставіў пад сумнеў.

**Алесь Смалянчук:** На маю думку, удзельнікаў паўстання было нашмат больш за 77 тысяч. Бо каго можна лічыць удзельнікамі? Толькі тых, хто са зброяй сышлі ў лясы? А як жа тыя, хто дапамагаў — інфармацыяй, прадуктамі, лекамі? Як жа тыя, хто насіў жалобу, запальваў знічы на магілах загінуўшых паўстанцаў? Для гэтага трэба была вялікая смеласць, бо пакаранні былі жорсткія: улада мела права высылаць людзей у Сібір без суда.

### 4. Як ставіліся да паўстанцаў сяляне?

**Віктар Хурсік:** У Польшчы сяляне ў большасці не здраджвалі сваім памешчыкам... У Беларусі было інакш. Калі ўлады звярнуліся да сялян, то яны са шчырай душой пачалі здаваць сваіх памешчыкаў. Добраахвотнікі, якіх паклікаў урад для затрымання паўстанцаў, у Беларусі вызначаліся вялікай колькасцю спайманых.

**Алесь Смалянчук:** У Гродзенскай і Віленскай губернях каля 17% сялянаў узяло ўдзел у паўстанні, нашмат больш, чым у Польшчы. Не выключана, што такая сялянская падтрымка была дасягнутая, дзякуючы «Мужыцкай праўдзе».

У 1861 годзе царскі ўрад адмяніў прыгон. Гэта быў вялікі не толькі сацыяльна-эканамічны, але і палітычны праект расейскага царызму. Ён меў паказаць сялянам, што цар — іх галоўны заступнік. Тое, што сяляне ўвогуле далучаліся да паўстання, можна лічыць поспехам.

Пад уплывам паўстання ўлады ўжо 1 траўня 1863 г. адмяняюць «часоваабавязанае становішча» і стымулююць выкуп памешчыцкай зямлі, даючы сялянам крэдыты. Трэба было выбіраць паміж атрыманнем зямлі, што гарантавала бязбеднае існаванне, і паўстанцамі, якія змагаліся супраць усёй Імперыі. Выбар большасці сялянаў быў відавочным. [І польскія сяляне пад уплывам дзяржаўнай агітацыі выступалі супраць паўстанцаў-шляхты ў падаўстрыйскай Польшчы ў 1848 і ў падрасійскай этнічнай Польшчы 1863 — **Рэд.**]

### 5. Ці можна раўняць Каліноўскага і Мураўёва?

**Віктар Хурсік:** Былі словы ў «Мужыцкай праўдзе»: «біць, каб рука не дрыжэла над рукой шляхецкага дзіцяці» [Відаць, маецца на ўвазе прыпісваны Каліноўскаму выраз: «Паўстанне мае быць чыста народным — шляхта, пакольку з намі не пойдзе, няхай гіне — тады сялянская сякера не павінна спыніцца нават над калыскай шляхецкага дзіцяці!» — **Рэд.**]. На Навагрудчыне, напрыклад, вешалі тых, хто не падтрымліваў сялян. Разумееце, сяляне балі цёмнай неадукаванай масай. Да яе было проста звярнуцца і сказаць, што ва ўсім вінаватыя памешчыкі. Так рабіў Каліноўскі, так рабіў і Мураўёў.

**Алесь Смалянчук:** Словы, якія прывёў Хурсік, узятыя з успамінаў аднаго з ідэйных апанентаў Каліноўскага. У «Мужыцкай праўдзе» нічога падобнага не было.

Не Каліноўскі, а Мураўёў і яго прыспешнікі развязалі тэрор. Не хачу апраўдваць і паўстанцаў, ад рук якіх таксама гінулі цывільныя людзі, але ж трэба разумець, што ў Беларусі і Літве ішла амаль што грамадзянская вайна. Урадавай хлусні, што нібыта паны паўсталі, каб вярнуць прыгон, супрацьстаяла ідэя «мужыцкай праўды» Каліноўскага і ягоных паплечнікаў...

Чытаючы ўспаміны і архіўныя дакументы, выразна бачыш, што Мураўёў для пераважнай часткі грамадскасці быў і застаўся «вешальнікам». Дзіўна і абуральна, што ў Беларусі знаходзяцца «спецыялісты», якія раўняюць яго з Каліноўскім.

**Сяргей Мікулевіч**

**Алесь Смалянчук**

нар. у 1959. Гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Даследчык палітычнай і нацыянальнай гісторыя Беларусі XIX—XX ст.

# «Каліноўскі разумеў, што барацьба за свабоду не можа быць кулуарнай»

Чаму паўстанне Каліноўскага так актуальна ўспрымаецца сёння і выклікае жывыя дыскусіі? Адказвае філосаф **Валер Булгакаў**.

**«Наша Ніва»: Ці адыграла паўстанне 1863 года нейкую ролю ва ўзнікненні беларускага руху?**

**Валер Булгакаў:** Паўстанне вяло да крышталізацыі беларускага руху. Выкліканы ім палітычны выбух нарадзіў беларускі нацыяналізм. Каліноўскі не быў яго родапачынальнікам, але праз свае рэвалюцыйныя пракламацыі ён заклаў новы тып грамадскай актыўнасці.

**«НН»: Што маецца на ўвазе?**

**ВБ:** Каліноўскі сваёй «Мужыцкай праўдай» прадвызначыў пэўныя мадэлі працы з грамадствам у варунках палітычнай несвабоды. Ён паказаў, што нават у самых змрочных умовах важна даходзіць да самага простага чалавека, а не замыкацца на «высокіх», «элітарных» асяроддзях. У гэтым сэнсе Каліноўскі — цалкам сучасны дзеяч, які цудоўна разумеў, што барацьба за свабоду і дэмакратыю не можа быць кулуарнай.

**«НН»: Так, у паўстанні Каліноўскага браў удзел малады Францішак Багушэвіч, пасля выдатны паэт, адвакат і аўтар знакамітага «Не выракайцеся ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі». А ці змянілася пасля паўстання палітыка царызму адносна беларусаў?**

**ВБ:** Паўстанне выклікала рост цікавасці да Беларусі, якая стала адным з тэатраў баявых дзеянняў, а таксама пастаўшчыком вайсковай сілы. Пасля паўстання Беларусь стала ўспрымацца так, як мы разумеем яе цяпер: як вялізная краіна, ад Чарнігава і да Берасця, ад Беластока і да Смаленска, ад Дзвінска і да Пінска, населеная этнічнымі беларусамі, якія гавораць па-беларуску. Прычым гісторыя распарадзілася так, што да выпрацоўкі новага, этнічнага разумення беларускасці прыклалі руку ідэалагічныя суапернікі Каліноўскага — тагачасныя «заходнерусісты» на чале з Міхалам Каяловічам — у адказ на ідэі паўстання.

Паўстанне выклікала надзвычайную палітызацыю і радыкалізацыю тагачаснага інтэлектуальнага асяроддзя. Каб нічога такога падобнага ніколі не паўтарылася, імперскія ідэолагі імкнуліся разбурыць палітычнае і культурнае адзінства краёвай эліты даўнейшай Рэчы Паспалітай этнічнымі аргументамі. Тагачасная расійская навука зрабіла ўсё, каб польскасць, якая грунтавалася на шырокіх грамадзянскіх падмурках, разумелася толькі ў вузкім этнічным сэнсе. Для палякаў гэта варажыла катастрофу: яшчэ нядаўна Віцебск і нават Смаленск успрымаліся як польскія гарады, а цяпер выяўлялася, што рускія (украінскія або беларускія) вёскі знаходзіліся за 70—100 кіламетраў ад Варшавы.

**«НН»: У гэтым сэнсе «палітычнымі палякамі» былі і ўсе тагачасныя насельнікі беларускіх ды ўкраінскіх земляў?**

**ВБ:** Калі гаворка пра каталіцкую і ўніяцкую эліту, то безумоўна так. У праваслаўных беларусаў польскасць нішчылася хутчэй, але формула «праваслаўны паляк» ні ў якім разе не вынаходка сацыялістычнай Польшчы. Падчас вайны 1812 праваслаўная эліта Магілёва станавілася на французскі бок і марыла аб адасабленні ад Расіі. У цэнтры краіны гэты дух захоўваўся і праз 50 гадоў: у 1850-я мінскіх гімназістаў ссылалі ў салдаты за дэманстрацыйнае падкрэсліванне сваёй польскасці.

**«НН»: Выходзіць, паўстанне — паваротная падзея ў гісторыі беларускай нацыі і дзяржаўнасці. Рэакцыя царскіх уладаў на паўстанне стварыла перадумовы для развіцця беларускага нацыяналізму. Улады ў адказ на паўстанне сталі змагацца з «духам польскасці» і «перажыткамі літоўскасці», у выніку беларусы зразумелі, што яны на самой справе адрозніваюцца і ад палякаў і ад расейцаў. Да таго ж, расійскія ўлады пагадзіліся з назвай «Беларусь» для нашых зямель ізноў жа, каб яна выціснула старую, «небяспечную» назву «Літва». І тая назва «Беларусь» прыжылася. Калі б не паўстанне, то і назва «Беларусь» магла б не замацавацца, і асяроддзе не радыкалізавалася. Вось такія парадаксальныя наступствы часам маюць гістарычныя падзеі... Цікава, што савецкая гістарычная канцэпцыя таксама падавала Каліноўскага як героя.**

**ВБ:** Савецкая палітыка гістарычнай памяці была супярэчлівай і надзвычай хлуслівай. Каліноўскаму «пашчасціла», бо ён быў паўстанцам, а ў выніку ўзброенага паўстання самі бальшавікі захапілі ўладу. Таму неўзабаве пасля кастрычніцкай рэвалюцыі, у 1920-я, яму было адведзена пэўнае месца ў нацыянальным пантэоне Савецкай Беларусі — у якасці героя другога ці хутчэй трэцяга плана. З яго імем была звязаная пэўная індустрыя — вуліцы Каліноўскага, партрэты, літаратурныя творы. Прычым залічэнне ў пантэон было б ужо немагчымае ў 1930-я або 1940-я гады праз унутраную трансфармацыю савецкай сістэмы. На шчасце, традыцыя была закладзена раней і заскарузлая савецкая сістэма ўжо не знайшла ў сабе сіл выкрасліць Каліноўскага з афіцыйнага канону памяці.

Палітыка памяці ў цяперашняй Беларусі падобная да савецкай. Праўда, афіцыйны дыскурс цяпер усхваляе не рэвалюцыйныя паўстанні, а рэчы цалкам супрацьлеглыя — стабільнасць і палітычную пераемнасць. Таму некаторыя сённяшнія ідэолагі топчуць нагамі Каліноўскага. «Конечно, праздновать тут нечего, поскольку этот экстремистский боевой листок [«Мужыцкая праўда»], издававшийся группой польских радикалов, не делает чести ни нашей литературе, ни публицистике», — піша галоўны рэдактар часопіса Адміністрацыі прэзідэнта «Беларуская думка» Вадзім Гігін.

**«НН»: Дзеля чаго гэта робіцца?**

**ВБ:** Нацыянальная памяць прэпаруецца і ачышчаецца ад усіх персанажаў з духам мяцежнасці, паўстанцкай рамантыкі. Ствараецца прарасійская версія беларускай гісторыі, яе героі па вызначэнні не могуць працістаяць уладзе, пагатоў са зброяй у руках. Сімптаматычна, што адзінай дзяржаўнай узнагародай, якую Лукашэнка скасаваў за час свайго кіравання, быў ордэн Каліноўскага.

**Гутарыў СМ**




Мінскі мастак-графіціст Dream і яго стэнсіл — Каліноўскі.

**Валер Булгакаў**

Філосаф, кандыдат навук, даследчык беларускага і іншых еўрапейскіх нацыяналізмаў.

# Самыя вядомыя выказванні Каліноўскага

Не народ для ўрада, а ўрад для народа.

Дык сейце ж, дзецюкі, як прыйдзе пара, поўнаю рукою — не шкадуйце працы,— каб і мужык быў чалавекам вольным, як ёсць на цалюткім свеце.

У нас, дзецюкі, суды — гэта воўчая яма, дзе не разбіраюць, ці за табой праўда, ці не. Бяспекі ніякай няма, хто дужэйшы, той і глуміць; а войска то не для таго трымаюць, каб аберагаці кожнага ад злых людзей, а для таго, каб не пазволіць народу і застагнаць, калі пазнае сваю няволю, калі зглядзіцца, што дзяруць з яго над сілы.

**«Мужыцкая праўда», якая выдавалася паўстанцамі ў лясах**

З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — але не жаль згінуць за тваю праўду.

Прымі, народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно як з таго свету толькі для дабра твайго напісана.

Няма ж, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа жыць у багацці, праўдзе, тады ён толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, калі збагаціць навукай розум, разаўе сэрца і радню цэлую сэрцам палюбіць. Але як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам навука праўдзівая з няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, — адно намі, як скаціной, варочаць будуць не для дабра, але на пагібель нашу.

Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжо не будзе.

Твой слуга

Яська-гаспадар з-пад Вільні

**«Лісты з-пад шыбеніцы», напісаныя з турмы**

# Аб неіснаванні бабскага шчасця

Пра новую кнігу Алены Бравы **«Рай даўно перанаселены»** піша Зміцер Панкавец.

Дзевяць гадоў таму пісьменніца бліскуча дэбютавала кнігай «Каменданцкі час для ластавак». Брава прызнавалася, што аповесць «заснаваная на рэальным жыццёвым досведзе».

Беларуска Алена была замужам за кубінцам, жыла на радзіме мужа, і там адчула ўсе радасці «выспы свабоды». Антытаталітарная кніга хутка знайшла водгук: Алесь Аркуш узнагародзіў аўтарку прэміяй «Гліняны Вялес».

Брава — не гераіня мінскай тусоўкі. Яна не з'яўляецца на прэзентацыях, адмаўляецца ад інтэрв'ю. Брава, як і аўтар культавага «Любіць ноч — права пацукоў» Юры Станкевіч, жыве ў Барысаве. Працуе намеснікам галоўнага рэдактара мясцовай «раёнкі», уваходзіць у афіцыйны пісьменніцкі саюз.

«Цела як аб'ект мяне ўвогуле мала хвалюе, у адрозненне ад душы, якую з панядзелка па пятніцу гвалтуюць усімі магчымымі спосабамі... Сёння субота, якой я чакала тыдзень, напоўнены абрыдлай працай, крамамі, паліклінікамі, жыццём-прыбіраннем» («Крупнік для Музы»).

Калі пабачыў, што ў кнізе не толькі раман «Менада і яе сатыры», але з паўтузіна іншых твораў, падумалася: эканомія. Прыходзіцца збіраць пад адной вокладкай усё напісанае, бо іншай магчымасці выдацца можа і не быць. Прачытаўшы ж, зразумеў, што ўсё тут дарэчы і да месца, ніводнага выпадковага апавядання няма.

Свет Алены Бравы змрочны. У кнізе нельга знайсці сюжэтаў для Галівуда ў стылі «жылі яны доўга і шчасліва і памерлі ў адзін дзень». Затое ёсць жорсткі свет беларускай правінцыі, дзе «кожны дзень і нават год настолькі падобныя адзін да аднаго, што ў абарыгенаў узнікае адчуванне вязкага сну, выкараскацца з якога можна, толькі праскочыўшы ў іншы сон, — пры дапамозе алкаголю, тэлебачання альбо рамантычнага кахання».

**Мужчыны ў кнізе нічога, апроч агіды, не выклікаюць, але яны— пераможцы »**

Гераіня «Менады і яе сатыраў» Юля выбірае трэці шлях. Але простага кахання шараговага інжынера ёй мала. Яна прызначае сваім «каханнем» мужчын. Прычым ёй няважная ўзаемнасць, яна чакае пакут. Як гераіня Цвейгавага «Ліста незнаёмкі» — «маніфест дурнічак».

Вакол Юлі ўзнікае мноства «сатыраў». Пузатых, пяхратых, тупых. Яны «не ўмеюць гуляць іншымі цацкамі, апроч сваіх геніталій». Зрэшты, цела для Юлі не ёсць каштоўнасцю. Яна з радасцю аддае яго ва ўласнасць кожнаму свайму «каханню». Калі адносіны заходзяць далёка, яна сама шукае спосаб іх абарваць. Бо важная не мэта, як у іншых жанчын (шлюб, дзеці, аднапакаёвы рай), а сам працэс кахання.

Увогуле, мужчыны ў кнізе — героі другасныя. Не трэба запамінаць іх імёны, можна запомніць па цялесных ці разумовых дэфектах. Нічога, апроч агіды, яны не выклікаюць. Але мужчыны — пераможцы. Яны могуць выбіраць сабе любую жанчыну з правінцыйнага горада. Ясна, што, маючы такі выбар, яны не спыняюцца на адной.

Нават нешматлікія светлыя вобразы «дзядулі і бабулі» («Рай даўно перанаселены») разбіваюцца. Дзядуля цягам многіх гадоў здраджваў жонцы, а тая баялася скандаліць, каб не сышоў. Толькі калі старога разбіў інфаркт, яна адважылася сказаць усё, скарачаючы і сабе, і яму жыццё.

Гераіні Бравы — развядзёнкі, кінутыя, удовы, адзінокія. Колькі б яны ні вылузваліся, а простага бабскага шчасця не дастаць. Нават калі з'ехаць у Германію («Даранне»). Ды што Германія, не будзе нават на тым свеце, бо ўсім жа вядома, што «рай даўно перанаселены».



Кажуць, што Брава піша па класічнай фемінісцкай схеме: «бабуля — маці — дачка». Ніводная з гераінь не можа пахваліцца выдатнымі адносінамі з маці. Тыя зайздросцяць маладосці сваіх дачок, радуюцца іх няўдачам. Браву нават вінавацілі ў тым, што яна «пазычыла» свае сюжэты ў нобелеўскай лаўраэткі аўстрыйкі Эльфрыды Елінэк, з яе «Піяністкай».

Так, Елінэк піша пра пачварную сувязь 36-гадовай выкладчыцы музыкі Эрыкі з яе састарэлай маці фраў Кохут. Але Елінэк акцэнтуе ўвагу на гэтых дэманах праз іх анамальнасць і ненармальнасць. У Бравы наадварот. Незвычайнай была б сітуацыя, калі ў сям'і ўсё добра.

Чытаць Браву нагбом цяжка, хутчэй маленькімі глыткамі, каб мець час пераждаць, абдумаць, адысці. Тэксты стварающца не дзеля галачкі, выношваюцца доўгі час.

Кніга «Рай даўно перанаселены» трапіла ў лонг-ліст сёлетняй прэміі імя Гедройца. Па справе.



**Алена Брава. Рай даўно перанаселены:** раман, аповесці, апавяданні. — Мінск: «Галіяфы», 2012.

## Жарсці вакол Гедройца

11 снежня быў абвешчаны лонг-ліст прэміі імя Ежы Гедройца. У яго ўвайшлі творы дванаццаці літаратараў. Каму б яны самі ўручылі прэмію і 105 мільёнаў рублёў? З такім пытаннем да фіналістаў звярнуўся карэспандэнт «НН».

**Альгерд Бахарэвіч:** З тых, каго чытаў, — напэўна, даў бы прэмію Адаму Глобусу. Мне як чытачу даўно падабаецца ягоная творчасць, прычым не толькі проза, а і вершы; а як творчаму чалавеку мне блізкія ягоная эстэтыка і яго незалежная пазіцыя. Глобус — не проста яшчэ адзін аўтар, ён — з'ява, з якой усім даводзіцца лічыцца і якая ўплывае на беларускую культуру. А намінаваная на прэмію кніга — добры ўзор сапраўднага літаратурнага чараўніцтва і вольнай думкі.

**Юры Станкевіч:** Мне здаецца, што варта было б грошы дзяліць паміж трыма аўтарамі — 50, 30 і 20 адсоткаў. А прэмію я б даў барысаўчанцы Алене Браве, трэба ж падтрымаць нашых жанчын-пісьменніц.

**Андрэй Федарэнка:** Яшчэ ў снежні я напісаў ліст з просьбай зняць мае кнігі з удзелу ў конкурсе. Чаму? Не хачу проста ўдзельнічаць — мы ж пішам не дзеля прэмій.

**Уладзімір Някляеў:** Я б даў прэмію любому з дванаццаці прэтэндэнтаў. Журы будзе цяжка абіраць пераможцаў — вельмі якасныя кнігі. У беларускай літаратуры склалася ўнікальная для еўрапейскага кантэксту сітуацыя — проза па якасным паказчыку пераўзыходзіць паэзію.

**Адам Глобус:** Я б падзяліў прэмію на дванаццаць роўных частак, бо прэмія патрэбная ўсім. А нават лепей так: я б адмовіўся ад прэміі і падзяліў яе на адзінаццаць частак.

**Алена Брава:** Гэтае пытанне толькі ў кампетэнцыі журы, я не магу браць на сябе такую адказнасць, хай сябры журы вырашаюць.

**Уладзімір Сцяпан:** Даў бы Андрэю Федарэнку, Адаму Глобусу ці Людміле Рублеўскай. Ідэя Глобуса падзяліць прэмію на роўныя часткі мне падабаецца — гэта аб'яднала б пісьменнікаў. Бо перамога кагосьці аднаго выклікае сваркі.

**Людміла Рублеўская:** Шмат выдатных кніг, будзе неэтычна абіраць з іх адну.

**Андрэй Пакроўскі:** Я не чытаў кнігі, якія трапілі ў лонг-ліст.

**Паліна Качаткова:** Я б дала прэмію Алене Браве — у яе выдатная, цікавая кніга, якую асабіста я прачытала летам за адзін дзень: не магла адарвацца.

**Алесь Пашкевіч:** Уладзіміру Някляеву. Цэльная і якасная кніга, як заўжды, чакана нечаканая. А калі б не Някляеву, то нашым жанчынам-аўтаркам, схіляю перад імі чало.

**Сяргей Балахонаў:** Я б даў Гедройца Алене Браве.

**Юрась Ускоў**

**У лонг-ліст прэміі імя Гедройца**

трапілі наступныя кнігі: Сяргей Балахонаў «Зямля пад крыламі Фенікса». Альгерд Бахарэвіч «Гамбургскі рахунак Бахарэвіча». Алена Брава «Рай даўно перанаселены». Адам Глобус «Сказы». Паліна Качаткова «Матылі». Уладзімір Някляеў «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». Андрэй Пакроўскі «Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза». Алесь Пашкевіч «Сімь Победиши». Людміла Рублеўская «Авантуры Пранціша. Вырвіча, шкаляра і шпега». Юры Станкевіч «Шал». Уладзімір Сцяпан «Адна капейка». Андрэй Федарэнка «Ланцуг».

**Літаратурная прэмія Гедройца**

заснаваная ў 2011 амбасадай Польшчы ў Беларусі, Польскім Інстытутам у Мінску, Беларускім ПЭН-Цэнтрам і Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Яе памер складае 105 мільёнаў рублёў. Прэмія прысуджаецца штогод за найлепшую кнігу па-беларуску ў жанрах «мастацкая проза», «эсэістыка». Ушанаванне пераможцаў адбываецца 3 сакавіка, у Міжнародны дзень пісьменніка. Сярод узнагародаў — магчымасць выдаць кнігу ў Польшчы, літаратурныя стыпендыі і запрашэнні ў еўрапейскія дамы творчасці.

## Выйдзе сто захаляўных кніжак пра выдатных дзеячаў культуры

Яны будуць **прадавацца ў супермаркетах**.

Інстытут беларускай гісторыі і культуры, зарэгістраваны ў Латвіі, распачаў новую серыю брашур: «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». Першыя выпускі прысвечаны Міхаілу Андрыёлі, Фларыяну Ждановічу і Мітрафану Доўнар-Запольскаму.

ІБГіК супольна з выдавецтвам «Харвест» закрывае нішу, якая дагэтуль заставалася вольнай. «Кішэнныя» брашуры пра дзеячаў беларускай культуры стануць альтэрнатывай расейскім серыям кшталту «Наша гісторыя. Сто вялікіх імёнаў».

«Асноўная задача — знаёміць моладзь з біяграфіямі славутых беларусаў, — кажа заснавальнік серыі Анатоль Тарас. — Серыя не палітычная, мы засяродзілі ўвагу на культуры». Сярод герояў наступных брашур — Аркадзь Смоліч і Францішак Аляхновіч, Зоська Верас і Напалеон Орда.

А.Тарас збіраецца распаўсюджваць частку накладу па супермаркетах — на стэндах, якія гандлююць кнігамі і часопісамі. Наклад у кожнай брашуры, дарэчы, 1500 асобнікаў.

«Мы адразу вырашылі, што кнігі мусяць быць невялікімі (па 64 старонкі), багата ілюстраванымі і недарагімі. Кожная з іх з накруткай ад крамы мусіць каштаваць максімум 15 000 рублёў», — кажа ён. У XIX стагоддзі кніжкі такога фармату называлі «захаляўнымі» — праз магчымасць насіць іх за халявай бота.

У серыі маюць выйсці кнігі, прысвечаныя дзеячам культуры XIX — XX стагоддзяў, якія ўвасаблялі нацыянальныя погляды на гісторыю, мастацтва, народную і прафесійную культуру Беларусі.

**ЮУ**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# На вуліцах Мінска з'явіліся білборды з Еўфрасінняй Полацкай

**У праекце «Родныя даты» будуць з'яўляцца знакавыя постаці і даты з гісторыі Беларусі.**

На вуліцах Мінска з'явіліся білборды з выявай асветніцы Еўфрасінні Полацкай. Вялізныя партрэты (8×4 і 6×3 метры) размешчаныя ў розных раёнах горада — на вуліцах Сурганава, Карла Лібнехта, на МКАД. Апроч стылёвай выявы самой святой, на іх напісаныя гады жыцця Еўфрасінні — 1104–1167. Праект «Родныя даты» рэалізуе кампанія «Белзнешрэклама», тая самая, што ў 2011 годзе радавала мінчукоў праектам «Смак беларускай мовы».

Як патлумачылі спецыялісты «Белзнешрэкламы», сёлета на працягу года на білбордах з'явяцца яшчэ некалькі постацяў з гісторыі Беларусі. Праўда, канкрэтных персанажаў яшчэ не выбралі.

Магчыма, што мінчукі ўбачаць і білборды з самымі значнымі датамі з гісторыі краіны. Падзеі, вартыя ўшанавання, будуць выбірацца ўнутры кампаніі.

Неўзабаве праект «Родныя даты» выйдзе за межы Мінска. Білборды будуць размешчаныя ў абласных цэнтрах краіны.

**Ягор Марціновіч**



Сяргей Гудзілін

## Як дзесяцікласнік школу беларусізаваў

**Вучань гімназіі №1 Наваполацка Даніла Астроўскі прыйшоў да дырэктаркі і папрасіў, каб у навучальнай установе праходзілі дні беларускай мовы.**

Яна згадзілася. Першы такі дзень адбыўся ў пачатку снежня: усе прадметы (акрамя замежных моваў) выкладаліся на роднай мове, а самі вучні размаўлялі выключна па-беларуску. Па словах Данілы, гэтым захапілася амаль уся школа — асабліва добра ўспрынялі такую ініцыятыву малодшыя класы.

«Я прыйшоў перад вучобай, паставіў народную музыку і павесіў на ўваходзе плакат аб тым, што сёння дзень беларускай мовы. Таксама развесіў плакаты на дошках аб'яваў. На ўваходзе даваў дзецям раздрукоўкі, што сёння за дзень», — кажа Даніла Астроўскі.

«У нас быў урок матэматыкі па-беларуску, і самае прыемнае, што ўсе ўсё разумелі. Напачатку адна дзяўчына была супраць, але ў цэлым вучні ўспрынялі такі эксперымент пазітыўна».

У школьнай сталовай у гэты дзень падавалі стравы беларускай кухні — дранікі, зразы з бульбай, вінегрэт, чорны хлеб і салату з капусты.

«Я мяркую, калі зрабіць падобныя дні больш частымі і дадаць конкурсы, то мова б адраджалася. Спачатку адна школа, потым увесь горад, вобласць, а там глядзіш, і ўся краіна», — кажа дзесяцікласнік.

«Буду прасіць дырэктарку рабіць такое штомесяц. А пасля — штотыдзень».

Вучні ад 2 да 9 класаў вельмі адказна паставіліся да дня беларускай мовы, а вось са старэйшымі было больш складана, адзначыў дзесяцікласнік. Сам ён кажа, што прапанаваў дырэктарцы праводзіць дні беларускай мовы праз тое, што роднай мовы проста не хапае ў школьным жыцці.

**Максім Семановіч, Наваполацк**

## А яны гавораць з намі чужой мовай

**Мяне заўсёды цікавяць матэрыялы ў друку, у якіх ёсць развагі аб стане беларускай мовы ў нашым жыцці.**

Нам, беларускамоўнай меншасці, нельга быць абыякавымі ў змаганні за мову, інакш сапраўды, як хочуць гэтага чыноўнікі, мова можа памерці. Нядаўна я звярнуўся да намесніка старшыні Валожынскага райвыканкама Аляксандра Бразоўскага са скаргай на беларускай мове, а ў адказ атрымаў ліст, напісаны па-руску. Я ніколі не буду паважаць такога чыноўніка, які не паважае мяне.

Нам, меншасці, трэба не толькі ўсюды размаўляць па-беларуску, але і актыўна прапагандаваць беларускае слова. Дамагацца ад мясцовай улады, каб усе шыльды з назвамі вуліц, плошчаў, прадпрыемстваў, установаў былі напісаны на дзвюх мовах, а найлепш на адной — беларускай, як мове тытульнай нацыі. Звяртацца з прапановамі, каб рашэнні ўладаў прымаліся на дзвюх дзяржаўных мовах. Пісаць свайму дэпутату палаты прадстаўнікоў з прапановай ініцыяваць разгляд парламентам праекта закона «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы», які быў распрацаваны ТБМ.

Я разумею, што куды б мы ні звярталіся, у адказ атрымаем адпіскі, змест якіх будзе амаль аднолькавы: у нашай краіне двухмоўе і згодна з «Законам аб мовах...» можна ўжываць беларускую або расейскую мову. Але ж, як сцвярджае народная прыказка, што нават кропля вады можа камень раскрышыць.

**Міхась Спірыдовіч, Івянец, Валожынскі раён**

# Беларуская глыбіня. **Мова любові**

Піша **Павел Севярынец**.

*Калі я гавару мовамі*
*чалавечымі і анёльскімі,*
*а любові не маю,*
*дык я — медзь звонкая або*
*кімвал гулкі.*
*I да Карынцянаў 13:1*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Размаўляеш па-беларуску — быццам цалуеш.

Павольна. Меладычна. З ціхай пяшчотай. З ненатольнай мяккасцю. У плыні цеплыні, калі зацінае дыханне... Вусны наліваюцца роднасцю, пякуча спалучаюцца і балюча расстаюцца, насычаюцца смакам блізкасці, раступляюцца, каб прыняць ласкавыя штуршкі языка, і час ад часу нецярплівае прыцмокванне дзекання і цекання кроплямі падтаквае ў тахт: так, так, так крынічаць толькі сэрцы, якія б'юцца любоўю і каханнем.

Чаму ж сёння беларусы сплёўваюць сваю родную мову з рота як лішнюю сліну?.. Не любяць.

А можа, пытанне ў іншым?

**Беларусь, пакліканая быць сэрцам Еўропы, не можа размаўляць інакш чым па-беларуску**

Навошта Госпад даў краіне на скрываўленым скрыжаванні мову настолькі празрыстую, пяшчотную, мілагучную? Навошта не рэзкую, гартанную, цвёрдую, каб з металам у канчатках, з прысмакам жоўці — а вось такую, дазвання сціплую, поўную ласкі, мяккую настолькі, што мяккі знак робіцца знакам яе якасці?..

Беларуская — мова сэрца Еўропы.

Скрышталізаваная хрысціянскім сярэднявеччам, яна загучала, калі мы яшчэ былі вольныя, у эпоху вялікага еўрапейскага абуджэння. Мова першадрукароў Бібліі ва Усходняй Еўропе, мова евангельскіх місіянераў у Расіі, Прыбалтыцы, Украіне, Польшчы, афіцыйная мова цывілізацыі ВКЛ, сродак паразумення і дыпламатычных дачыненняў ад Кракава да Масквы, ад Валахіі да Інфлянтаў...

Толькі мове любові, найчысцейшай са славянскіх, было пад сілу сплавіць праваслаўе, каталіцтва, пратэстанцтва ў адным народзе, дасягнуць адной паспяховай уніі за ўсю гісторыю чалавецтва, пераждаць знішчальныя войны і нянавісць імперыяў — каб следам за Хрыстом раздаваць сябе, адрываючы па кавалках, суседзям. I гэта яна мігціць, пульсуе, пераліваецца і нават не патрабуе перакладу ў любові Міцкевіча, Сянкевіча, Манюшкі да Польшчы, Мсціслаўца ды Сматрыцкага — да Украіны, Дастаеўскага, Буніна, Глінкі да Расеі...

Далікатная, трапяткая, самаадданая да самазабыцця, яна спалучае шчымлівую яснасць і ласкавую сціпласць, пакутлівасць і ахвярнасць, еўрапейскую вытанчанасць і славянскую сілу.

У якой яшчэ мове так празрыста іграюць памяншальна-ласкальныя формы імёнаў — Кастусі, Міхасі, Андрусі, Марусі ды Алесі!.. У якой яшчэ мове так бруіць раскоша міленькіх да апошняй літаркі ўлюбёных суфіксаў, ад якіх уся гаворка прыпадабняецца да птушынага шчабятання?.. Унікальна поўнагалосая... Другая ў Еўропе пасля італійскай паводле спеўнасці... Мігціць, прасвечвае далёкая лёгкасць і амаль незямная светліня — ці то казачнай эльфійскай, ці то нябёснай анёльскай.

Беларуская мова спалучае ў сабе ўсё багацце пачуццяў, але любоў з іх найбольшая.

«Мова наша святая, бо яна нам ад Бога дадзеная» — патрыярх беларускага Адраджэння пацэліў у самую сутнасць.

Сувязь паміж асабістай святасцю, нацыянальнай свядомасцю і роднай мовай у Беларусі наўпроставая. Сённяшнія беларусы, перасавецція, бледнарукія, недапалякі, з падазрэннем на лёгкую габрэйскасць, напаўразваранымі вываленыя з плавільнага катла імперыі ў калгасную дыктатуру, аглушаныя глабалізацыяй, абязбожаныя — ды куды там, пакуль проста не ў стане адчуць сябе носьбітамі найчысцейшага цуду Слова.

Як у роце, запоўненым бырлам, матам, ванітамі, сярод адрыжак спажывецтва і вострай злосці, дзе варочаецца барвовы, разбухлы ад сварак і пустаслоўя язык, выжыве пяшчотная, сатканая з дыханняў, адценняў і гармоніяў, натхнёная евангельскім зместам мова любові?

Беларускасць (і ўвогуле сэнс існавання 10-мільённага народа ў глыбіні Еўропы) можа ўратаваць толькі ўсенароднае пакаянне, скразная евангелізацыя, нацыянальнае абуджэнне перад Богам. I вырашальны, пераломны момант беларусізацыі — усведамленне каштоўнасці мовы Царквою. Касцёл дальнабачны. Касцёл гэтае пытанне ўжо вырашыў. Калі заўважная доля праваслаўных і пратэстанцкіх супольнасцяў прыме беларускую як код хрысціянскай ментальнасці, як уласную спадчыну, як мову веры і мову любові — Адраджэнне ўспыхне з небывалай сілай.

«Бог ёсць любоў, і хто жыве ў любові, той жыве ў Богу, і Бог у ім» (I Яна 4:16).

Беларусь, пакліканая быць сэрцам Еўропы, не можа размаўляць інакш, чым па-беларуску — а ў адваротным выпадку сэрца сцінаецца, захлынаецца і выклікае інфаркты на Захадзе ды ў Расеі.

Беларуская непазбежна будзе моваю нашага вяртання прытомнасці, моваю пераменаў — бо толькі найвышэйшай любові пад сілу адолець паміранне грамадства, гвалт тыраніі і зло імперыі.

Беларускай наканавана крышталізаваць нацыянальную ідэю сутнасна хрысціянскай — толькі тады мы адкрыем гэтую краіну Таму, Хто любіць нас мацней за нас саміх.

Бо што значыць стаць беларусам?

Гэта значыць аднойчы паверыць, што за кожнага з нас і за ўвесь народ аддала сябе на пакуты і смерць дасканалая, найчысцейшая, святая Любоў, якая ўцелавілася ў Слове.

*Куплін*

# Мінчука, які адпісаў кватэру дзяржаве, забілі

**Жыхары нешчаслівай кватэры перажылі дзве катастрофы.**

Мінчук Дзмітры Ракаўчук завяшчаў сваю кватэру ў спадчыну Рэспубліцы Беларусь. Пра гэта паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы: «Аляксандр Лукашэнка ўзгадніў праект пастановы Савета міністраў «Аб прыняцці ў рэспубліканскую ўласнасць спадчыннай маёмасці». Што ж гэта за таямнічая кватэра, лёс якой вырашаецца на ўзроўні кіраўніка дзяржавы?

Кватэра, якая змяніла ўласніка, знаходзіцца ў Мінску па адрасе Брэсцкая, 76. Дом быў пабудаваны ў 1972 — звычайная пяціпавярховая панэлька. З вокнаў бачнае возера і гарналыжны курорт «Сонечная даліна». Пра тое, што лёсам кватэры ў іх доме займаюцца на самым высокім узроўні, суседзі чуюць упершыню. Але пасля пачынаюць узгадваць усю таямнічую гісторыю гэтай нешчаслівай кватэры — №66. Зрэшты, мы не выключаем, што немаладыя суседзі маглі прыўкрасіць падзеі — нешта за 40 гадоў і забылася.

Такім чынам, кватэру ў новапабудаваным доме атрымала сям'я — муж, жонка і двое дзяцей. Няшчасці ў кватэры №66 пачаліся з іх. Жонка ў тым самым 1972 была паранена падчас выбуху ў футаралавым цэху Мінскага радыёзавода на вуліцы Соф'і Кавалеўскай. Сістэма вентыляцыі не давала рады дробнаму пылу, які ўзнікаў падчас шліфоўкі футаралаў для тэлевізараў. Пажарныя папярэджвалі праекціроўшчыкаў пра магчымыя наступствы. Было дастаткова адной іскры, каб увесь цэх выбухнуў. Гэтак і адбылося. Тады, па розных падліках, загінула 120—140 чалавек.

Муж стаў сведкам іншай жахлівай катастрофы. Ён быў тым самым машыністам электрычкі «Аляхновічы—Мінск», якую праз няправільныя паказанні святлафора на станцыі Крыжоўка 2 мая 1977 пратараніў пасажырскі цягнік «Гродна—Орша». На месцы загінула 19 чалавек, яшчэ больш за 80 чалавек былі параненыя.



Сяргей Гудзілін

Акуратныя металічныя дзверы. Здаецца, што гаспадар выйшаў на пару хвілін.



Сяргей Гудзілін

Другі паверх справа — вокны той нешчаслівай кватэры.

У пачатку 1990-х, пасля смерці жонкі, былы машыніст пачаў жыць з іншай жанчынай. А кватэру на Брэсцкай вырашыў прадаць. Пакупнікамі ў выніку стала сям'я расейцаў Ракаўчукоў. Дзмітрый быў вайскоўцам у адстаўцы, ягоная жонка Святлана — выкладчыцай фізкультуры. З імі жыў і яе сын ад першага шлюбу Аляксандр. Так ці інакш, у сваёй новай кватэры яны пражылі трохі больш за 10 гадоў, пакуль Святлана, хворая на гіпертанію, не памерла. «Інсульт», — растлумачыў суседзям Дзмітрый. Яе цела крэміравалі, пасля чаго сын Аляксандр паехаў хаваць яе на радзіму, у Расію.

Неўзабаве пасля яго вяртання, 23 верасня 2012 года, суседзі ўбачылі кватэру апячатанай. Здзіўленым жыльцам міліцыянты паведамілі, што 63-гадовы Дзмітрый Ракаўчук быў забіты. Паводле інфармацыі міліцыі, мужчыну забіў ягоны 22-гадовы пасынак. Падчас нейкай спрэчкі пачалася бойка. Маладзейшы паспеў нанесці айчыму смяротны ўдар па галаве. Аляксандр быў арыштаваны і з таго часу знаходзіцца ў следчым ізалятары.

Суседзі перакананыя, што прычынай канфлікту стала кватэрнае пытанне. Дзмітрый расказваў ім, што Аляксандр неаднаразова патрабаваў прадаць кватэру і аддаць яму ягоную долю. Паразумецца яны так і не здолелі...

Пра тое, што ў Дзмітрыя існавала завяшчанне і пра ягоны змест, стала вядома з паведамлення прэс-службы Аляксандра Лукашэнкі. Аказваецца, Ракаўчук дадаткова ўказаў, што хоча перадаць сваю кватэру ва ўласнасць дзяржавы. Суседка Дзмітрыя ўзгадвае, што ён казаў ёй пра складзенае завяшчанне і пра ягоны змест, аднак яна вырашыла, што той жартуе. Ракаўчук-старэйшы ж паклапаціўся, каб кватэра не дасталася пасынку. Дарэчы, у яго была яшчэ дачка ад першага шлюбу, але адносіны яны не падтрымлівалі.

Так ці інакш, неўзабаве на Брэсцкай, 76, кв. 66 з'явяцца новыя жыхары. Паводле распараджэння Аляксандра Лукашэнкі, кватэру атрымае сям'я інвалідаў ці шматдзетная сям'я.

**Ягор Марціновіч**

## Вышук



Маладога чалавека на фота шукае ГУУС Мінгарвыканкама па падазрэнні ў махлярстве. Ён абяцаў на 20% танней чым у крамах прывезці з-за мяжы электроннае абсталяванне, парфуму і брэндавае адзенне. Мінчанін браў перадаплату ў 200—500 даляраў і знікаў. Падмануў дзясяткі людзей. Хто ведае месцазнаходжанне гэтага чалавека, просьба тэлефанаваць на нумары: (017) 226-20-85, (017) 222-04-42, (029) 636-18-00.

## Сцісла

### Кантрабандысты ў ксяндзоўскіх сутанах

Два прайдзісветы з Польшчы спрабавалі праз беларуска-літоўскую мяжу правезці кантрабандай цыгарэт на 12 тысяч еўра. Пераапрануўшыся ў ксяндзоўскія сутаны, мужчыны ехалі на пікапе з налепкамі дабрачыннай арганізацыі «Карытас». Разлічвалі, што такія дэкарацыі не выклічуць падазрэнняў. Але пры надглядзе літоўскія мытнікі пад кузавам пікапа выявілі падвойнае дно, а ў тайніку — 6400 пачкаў цыгарэт.

### Пасадзілі ДАІшніка

27-гадовага інспектара ДАІ з Камянца асудзілі на пяць гадоў за хабар. Ён вызваляў нецвярозых кіроўцаў ад адказнасці і вяртаў ім правы. Выяўлены дваццаць такіх фактаў. Сума хабараў склала 50 млн рублёў. Атрыманыя грошы інспектар прайграваў у букмекерскіх канторах.

**КМ**

# Пабоішча перад Калядамі

**Сутычка ў Пінску скончылася праламанымі галовамі.**

Пінскі кальян-бар «Шацёр», у якім адбылася масавая бойка 6 студзеня, разбіты і апячатаны. Удзельнікі пабоішча — у бальніцы і ізалятары.

Следчыя пакуль даюць скупыя звесткі. У той вечар у рэстаране «Андрэ» паміж дзвюма кампаніямі пачалася спрэчка, а затым і бойка. Суцішыць іх здолеў толькі спецназ. Але нікога не затрымлівалі — павыкідалі на вуліцу. Адна кампанія перайшла ў кальян-бар «Шацёр», каб дасвяткаваць. Іншая ж аказалася моцна пакрыўджанай: за сарванае застолле вырашылі адпомсціць. Бойка працягнулася ў кальяннай. Удзельнікі — хлопцы ад 20 да 30 гадоў. Агулам іх было каля двух дзясяткаў. У выніку васьмёра былі шпіталізаваныя, яшчэ адзін звярнуўся да медыкаў праз дзень.

Крымінальная справа заведзеная за асабліва злоснае хуліганства. Па словах следчага УСК па Брэсцкай вобласці Аляксея Барчука, чатыры чалавекі цяпер знаходзяцца ў ізалятары ў статусе падазраваных. Яшчэ двух расшукваюць. Прычына такой жорсткай бойкі пакуль не называецца — «следства высвятляе».

У Пінску ходзяць чуткі, што ў кальяннай біліся крымінальнікі. Маўляў, дзялілі сферы ўплыву. Ды і не бойка гэта была, кажа «радыё АБС», а мэтаскіравана адны забівалі іншых. Маўляў, прыйшлі з кастэтамі і металічнымі прутамі. У міліцыі тое адмаўляць: біліся выключна рукамі, нагамі і абломкамі крэслаў.

На шчасце, забітых няма. Але крыві было шмат. На аператыўных фота бачна вялізная крывавая пляма на падлозе — паразбівалі галовы і не толькі. Усе шпіталізаваныя атрымалі чэрапна-мазгавыя траўмы рознай ступені. Трое дагэтуль у рэанімацыі.

«Двое пацыху выходзяць з комы — ужо ў свядомасці, адзін застаецца ў коме III ступені. Двух чалавек выпісалі», — паведаміў «НН» галоўны доктар Пінскай цэнтральнай бальніцы Віктар Асачук.

**Кастусь Матушыч**




Лужыны крыві і паламаная мэбля — што засталося з таго вечара.

# «Завіруха-2013»



**26 і 27 студзеня ў Раўбічах** пройдуць трэція міжнародныя спаборніцтвы па ездавым спорце «Завіруха-2013». Самаму юнаму ўдзельніку споўнілася 7 гадоў, а самаму сталаму — 71 год.
Галоўныя героі спаборніцтваў — сабакі пароды хаскі. Гэта спецыяльныя ездавыя лайкі, выведзеныя, каб цягнуць запрэжкі праз снег ды завею.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## ХАКЕЙ

**Беларускіх хакейных заўзятараў** чакае тры запар хатнія гульні мінскага «Дынама» ў КХЛ на «Мінск-Арэне». **17 студзеня** прыязджае «Сібір» (пачатак а 19-й), **19 студзеня** — «Амур» (а 17-й), а **21 студзеня** — новакузнецкі «Металург» (а 19-й). Ад поспеху ў гэтых гульнях шмат у чым залежыць, ці трапіць «Дынама» ў наступны раўнд турніра. Каманда балансуе на мяжы восьмага прахаднога месца.

## БАСКЕТБОЛ

**23 студзеня «Цмокі-Мінск»** пачынаюць удзел у 1/8 фіналу розыгрышу «Еўрачэленджа» — трэцяга па магутнасці баскетбольнага турніра Еўропы. Беларускія хлопцы прымаюць бельгійскую каманду «Акапі». Пачатак гульні а 19-й на «Мінск-Арэне».

## КАНЦЭРТЫ

### «Бяседа»

**16 студзеня а 19-й у КЗ «Мінск» (Кастрычніцкая, 5)** — канцэрт ансамбля народнай песні «Бяседа».

### Арганнае мастацтва

**24 студзеня а 19-й у філармоніі** — канцэрт Musica Britannica для аргана і альта. У выкананні Міхаіла Мішчанкі і Барыса Барынава прагучаць творы брытанскіх майстроў XX стагоддзя — Эдварда Элгара, Ральфа Воана Уільямса, Ёрка Боўэна, Алана Буша.

### Уладзіміру Высоцкаму — 75

**20 і 22 студзеня а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — канцэрт для аматараў творчасці Уладзіміра Высоцкага. Галоўны госць канцэртнай праграмы — музыка Яўген Чулкоў (Ніжні Тагіл, Расія).

### Гала-аперэта

**24 студзеня ў 19.30 у тэатры оперы і балета** — канцэрт «Гала-аперэта». У праграме творы І.Кальмана, Ф.Легара, І.Штрауса, Р.Фрымля, І.Дунаеўскага…

## ІМПРЭЗЫ

### Cinema Perpetuum Mobile

**Да 20 студзеня ў Беларусі** — Другі міжнародны фестываль кароткаметражнага кіно Cinema Perpetuum Mobile.
Імпрэзы адбываюцца ў кінатэатры «Цэнтральны» (пр. Незалежнасці, 13), Музеі гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4), Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47), антыкаварні «Дом Фішара» (пр. Незалежнасці, 84 а).

## ВЫСТАВЫ

### Вайна 1812 у Беларусі вачыма сучасніка

**Апошнія дні, да 22 студзеня, у Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Вайна 1812 года вачыма відавочца. Графіка Фабера дзю Фора». Мастак быў палкоўнікам напалеонаўскай «Вялікай Арміі». Выстава яго малюнкаў — унікальная магчымасць пабачыць Беларусь дафатаграфічнай эпохі.

### Terra Nova

**Да 23 студзеня ў галерэі «Ракурс»** Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі працуе IV Мінскі міжнародны фестываль лічбавага мастацтва Terra Nova. Праграма фестывалю ўключае выстаўку лічбавай фатаграфіі і камп'ютарнай графікі, а таксама відэапрагляды на працягу месяца ў галерэі «Лабірынт» і зале адукацыйных тэхналогій Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

### Музычная паштоўка

**Да 31 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава музычных інструментаў з прыватнай калекцыі Дзмітрыя Ровенскага «Музычная паштоўка». На выставе прадстаўлены звыш 100 музычных інструментаў. Сярод іх гармонікі, баяны, акардэоны, акарыны, трубы, дуды, жалейкі, дудкі, басэтля, цытра, флейта, тамбурын і іншыя.





## ТЭАТРЫ

### 16 студзеня

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Купалаўскі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Купалаўскі** — «Гендэль Бах»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 17 студзеня

**Лялек** — «Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Оперы і балета** — «Рыта, альбо Пірацкі трохкутнік»

### 18 студзеня

**Лялек** — «Дзяды»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Купалаўскі** — Translations
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»

### 19 студзеня

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлярой»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

### 20 студзеня

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Купалаўскі** — «Хам»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 21 студзеня

**Купалаўскі** — «Офіс»

### 22 студзеня

**Оперы і балета** — «Набука»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»

### 23 студзеня

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Юнага гледача** — «Вандраванне ў царства Сноў»
**Оперы і балета** — «Набука»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### 24 студзеня

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»

## КІНО

### Лялька імперскага тэатра

**Ганна Карэніна** (Anna Karenina)
Вялікабрытанія, 2012, каляровы, 129 хв.
**Рэжысёр:** Джо Райт
**Ролі выконваюць:** Кіра Найтлі, Джуд Лоў, Аарон Тэйлар-Джонсан, Келі МакДоналд, Мэцью МакФэйдэн, Домнал Глісан, Рут Уілсан
**Жанр:** драма паводле аднайменнага рамана Льва Талстога
**Адзнака:** 3 (з 10)

«Ганне Карэнінай» шанцавала на экранізацыі. Іх было болей за 25. Сённяшняя — брытанская пастаноўка Джо Райта, сцэнар для якой склаў драматург Том Стопард. Адметнасць карціны — наўмысная тэатральнасць. Фільм пачынаецца як спектакль, а падчас любой сцэны мы бачым дэкарацыі. Харэаграфічныя нумары падкрэсліваюць умоўнасць дзеяння.
Гэта механічнае прадстаўленне, дзе замест жывых людзей — вельмі дарагія рэчы. Ганна Карэніна, сыграная Кірай Найтлі, — гэта заводная лялька з істэрыкай, што ўключаецца ў патрэбных момантах. Вронскі (Арон Тэйлар-Джонсан) — цукровы фацэт з пергідрольнымі валасамі, функцыя якога звабна ўсміхацца. Левін (Домнал Глісан) — няўцямны персанаж у цяжкім кажусе (але Талстой пісаў гэтага героя з сябе). Неабходнай штучнасці дадае і моцны англійскі акцэнт рускіх народных песень. Самы чалавечны персанаж між штучнасці — Карэнін (Джуд Лоў), вінцік дзяржаўнай машыны. І выйсця з суцэльнага тэатра — няма.

**Андрэй Расінскі**



# Куды сыходзяць з БТ?

**Дзесяць лёсаў тэлевізійнікаў, якія пакінулі наседжанае месца.**

Ад пачатку года ў эфіры АНТ з'явілася шоу «Я люблю Беларусь» — забаўляльна-пазнавальная праграма з Дзянісам Кур'янам у якасці вядучага. Гледачы ж памятаюць яго па працы на «Беларусь-1» (БТ). Пераходы з канала на канал топавых вядучых — рэдкасць для беларускіх рэалій. Звычайна яны з'язджаюць у Расію ці Украіну ці цалкам адмаўляюцца ад тэлекар'еры.

«Наша Ніва» склала топ-10 вядучых апошніх гадоў, што сышлі з працы на тэлебачанні. Дзе іх можна ўбачыць цяпер?

### 10. Саша Паўлава — «Музычны суд», «Зачыстка» на АНТ



Былая зорка «Плэйбоя» Вольга Урашова ўварвалася на беларускае тэлебачанне ў 2009 годзе. Ужо як Аляксандра Паўлава — у новае жыццё з новым імем, вырашыла яна, і змяніла прозвішча ў сваім галандскім пашпарце.

Яна нарадзілася ў Мінску, але пасля заканчэння чатырох курсаў факультэта міжнародных адносінаў БДУ з'ехала ў Галандыю, дзе здабыла вядомасць як пераможца тамтэйшага «Апошняга героя».

У Беларусі Саша вяла праграму «Музычны суд», і многія ўключалі тэлевізар, толькі каб пабачыць сімпатычную вядучую. На тэлебачанні яна пратрымалася два гады.

«Масква, Кіеў ці Еўропа. Разглядаю найлепшую прапанову», — сказала Паўлава ў канцы 2011 года пра свае планы пасля звальнення з АНТ. Аднак пра новую эміграцыю і прафесійныя дасягненні Сашы не чуваць — зацягнулі адносіны. У свецкай хроніцы яна пастаянна фігуруе побач з салістам гурту «Чук і Гек» Паўлам Сыраежкіным.

### 9. Аляксандр Мартыненка — «Ход у адказ» («Ответный ход») на «Беларусь-1»



Год таму, 17 снежня 2011, указам прэзідэнта быў адпраўлены ў адстаўку намеснік старшыні Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Мартыненка. Імя гэтага непублічнага чалавека — што дзіўна для тэлевізійніка — з таго часу так і не з'явілася ў навінах.

Аднак вядомым Мартыненка быў не толькі як тэлевядучы, але і як муж Наталлі Пяткевіч — прэс-сакратаркі Лукашэнкі, пасля першай намесніцы кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, а цяпер дарадцы кіраўніка дзяржавы. Шлюб быў зарэгістраваны ў 2009 годзе, за дзень да пераможнай для Мартыненкі «Тэлевяршыні». Тады яго назвалі найлепшым вядучым грамадска-палітычнай праграмы.

Летась чуткі ў інтэрнэце «развялі» Мартыненку і Пяткевіч, аднак дакументальна інфармацыя не пацвярджалася.

### 8. Вольга Палякова — «Нашы навіны» на АНТ



Вядучая, якую называлі жаночым тварам АНТ, сышла ціха і незаўважна. Палякова працавала на канале ад 2004, аднак у пачатку 2012 нечакана знікла з эфіру. Паводле афіцыйнай прычыны, сышла ў адпачынак, які зацягнуўся ўжо амаль на год.

Палякова нарадзілася ў Расіі, на Урале, аднак жыве ў нашай краіне ўжо даўно. Па спецыяльнасці яна тэрапеўт. Дарэчы, муж Паляковай — адзін з найлепшых анколагаў-уролагаў у Беларусі.

### 7. Дзмітрый Косцін — «Форум» і «Вакол планеты» на «Беларусь-1»



Месяц таму ў ток-шоу «Форум» — не блытаць з аднайменнай праграмай на «Белсаце» — раптоўна змяніўся вядучы, Дзмітрый Косцін.

Ён з'явіўся ў эфіры яшчэ ў 1992, ствараў праекты ў моладзевай рэдакцыі БТ, быў заснавальнікам першай праграмы пра машыны «Аўтапарк». У 2005 вядучы атрымаў прэмію кіраўніка дзяржавы дзеячам культуры і мастацтва, а ў 2006 ачоліў інфармацыйны штаб Аляксандра Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах.

Чаму ж «Форум» застаўся без свайго стваральніка? Па словах самога Косціна, ён сышоў у «творчы адпачынак» — піша дысертацыю па тэлерэкламе ў аспірантуры Акадэміі мастацтваў. Кажа, што мае намер вярнуцца ў эфір, аднак на сайце БТ са спіса вядучых ён ужо выдалены.




### 6. Лейла Ісмаілава — дзіцячае «Еўрабачанне-2010» на «Беларусь-1»



Сваю «Тэлевяршыню» Лейла атрымала як найлепшая вядучая музычна-забаўляльнай перадачы — таго самага «Еўрабачання». У тэлевізар яна трапляла і здымаючыся ў рэкламе — «Світанак», «Савушкаў прадукт».

Лейла нарадзілася ў Нагорным Карабаху. У пачатку 1990-х, калі на Каўказе разгарнуліся ваенныя дзеянні, сям'я Ісмаілавых пераехала ў Баку. Пасля смерці бацькі было вырашана рушыць у Мінск — на радзіму маці Лейлы. У Беларусі маладая вядучая скончыла ліцэй БДУ і факультэт журналістыкі БДУ.

Па стыпендыі Еўракамісіі яна паспела павучыцца па абмене ў Грэцыі, а цяпер, неяк пазбегнуўшы суровага беларускага размеркавання, з'ехала ў Лос-Анжэлес спасцігаць кінаіндустрыю.

Арташэс Антанян



### 4-5. Юрый Круглік («Панарама») і Аліна Краўцова («Культурныя людзі»)





Двое тэлевядучых раней працавалі на «Беларусь-1», а цяпер з'яўляюцца ў эфіры пецярбургскага 5-га канала.

Найлепшы вядучы Беларусі-2007 маладзечанец Круглік вядзе навінную перадачу «Теперь». У Беларусі ён пачынаў вядучым рэгіянальных навінаў на ЛАДзе, а пасля «дарос» да «Панарамы» і праекта «Дзеці новага пакалення».

Краўцова здабыла вядомасць як дыктар у навінах, вяла аўтарскую праграму «Культурныя людзі», а таксама «Зорныя танцы» і «Славянскі базар». «Для мяне не мае вялікага значэння месца. У якім горадзе для рэалізацыі маіх мэтаў і задач складзецца найбольш спрыяльная абстаноўка, там і застануся», — прызнавалася Краўцова. Цяпер такая сітуацыя склалася ў Пецярбургу. Яна вядучая крымінальнай хронікі «Место происшествия».

### 3. Арташэс Антанян — «Навіны спорту» на АНТ

Найлепшы спартовы каментатар краіны 2009 года, які запомніўся заўзятарам саркастычным каментаваннем гульняў футбольнай зборнай Беларусі, летась з'ехаў у Маскву.

Там ён працуе на тэлевізійным канале «Камсамольскай праўды», а таксама каментуе спартыўныя спаборніцтвы на падраздзяленнях канала «Расія» — «Расія-2», «Спорт-1» і «Спорт-2».

Антанян пачынаў дыджэем на радыё «Брэст», а пасля перабраўся ў сталіцу, дзе яго голас можна было пачуць на «Радыё Бі-Эй».

### 2. Ягор Хрусталёў — «Карамболь», «Крок», «Усё нармальна, мама», «Выбар»



Імя гэтага тэлевядучага грымела з сярэдзіны 1990-х. Ён, сын дырэктара стадыёна «Дынама», быў адным з сімвалаў новага беларускага тэлебачання.

У 2003 Ягор стаў вядучым ток-шоу «Выбар», пераняўшы эстафету ва Уладзіміра Мацкевіча, якому далі правесці толькі восем выпускаў. З Хрусталёвым ток-шоу ішло ў эфіры шэсць гадоў, губляючы вастрыню.

Зрэшты, Хрусталёў жыў не адным «Выбарам». Ён быў генеральным прадзюсарам АНТ, ствараў «Песні маёй краіны», «Ноч оперы ў Мірскім замку» і іншыя праекты.

Апроч таго, Хрусталёў пісаў песні для зорак беларускай эстрады. Супрацоўніцтва са спявачкай Галінай Шышковай зайшло далёка — так у Хрусталёва нарадзіўся пазашлюбны сын.

У 2009 тэлевядучы кардынальна змяніў жыццё і з'ехаў у Маскву, дзе стаў прадзюсарам спецыяльных праектаў на забаўляльным канале СТС. Больш у эфіры ён не з'яўляўся.

### 1. Сяргей Дарафееў — «Добрай раніцы, Беларусь!», «Выбар»

Адна з галоўных зорак беларускага, а цяпер і ўкраінскага тэлебачання журналісцкую адукацыю атрымліваў за мяжой, выйграўшы грант Дзярждэпартамента ЗША.

Вядомасць яму прынесла праца на АНТ. Пра розніцу паміж Хрусталёвым і Дарафеевым, які стаў вядучым «Выбара» пасля Ягора, найлепш сведчыць намінацыя, у якой кожны з іх выйграваў «Тэлевяршыню». Перадачу Хрусталёва ў 2006 годзе назвалі забаўляльнай праграмай, а вось у Дарафеева ў 2010 гэта была грамадска-палітычная праграма.

Эфір «Выбара» 19 снежня 2010 кардынальна змяніў жыццё вядучага. На наступны дзень Лукашэнка публічна выказаў сваю незадаволенасць праграмай, перспектыў на дзяржаўным тэлебачанні для Дарафеева не было. Перадача апынулася ў «творчым адпачынку».

Дарафееў пераехаў у Кіеў, дзе пачаў працаваць на 5-м канале. Цяпер ён вядзе суботнюю праграму «Партрэты з Сяргеем Дарафеевым». Летась выйграў украінскую прэмію «Тэлетрыумф» у намінацыі «Інтэрв'юер».

«Працаваць цяпер на беларускім тэлебачанні — вось што злачынства, — казаў ён нядаўна. — Да 19 снежня 2010 для мяне была адна Беларусь, потым Беларусь стала іншая».

**Ягор Марціновіч**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Следам за «Тэхнабанкам» і «БелВЭБам», «Белінвестбанк» прэзентаваў канцэптуальны каляндар на беларускай мове. Ён называецца «Словы». На ім — 12 выразаў, ад фразы на Барысавым камяні да першага артыкула Канстытуцыі Беларусі, якія акрэсліваюць гістарычны шлях нацыі. Каляндар мае выдатную паліграфію і ўнікальны памер — 0,5 на 0,7 м.**




**Амерыканскі часопіс National Geographic абраў найлепшыя здымкі 2012 года. Галоўны прыз атрымала фота «Выбух». На ім Бусаба, індакітайская тыгрыца ў адкрытым заапарку Каа-Кіа ў Тайландзе.**



**28-гадовая спявачка Кэці Пэры заняла першы радок у рэйтынгу 100 самых сэксуальных жанчын 2013 года, які склаў мужчынскі часопіс Men's Health.**



**У Паветрана-дэсантных сілах Расіі тэстуецца эксперыментальны перасоўны праваслаўны храм на базе грузавога аўтамабіля КамАЗ.**

## Анекдоты

* * *

На просьбу ўладаў не выязджаць на дарогі ў снегапад з задавальненнем адгукнуліся снегаўборачныя службы.

* * *

Тое, што ў свеце называюць крызісам, у Беларусі называюць стабільнасцю.

* * *

— Паводле афіцыйных звестак, сярэдні заробак у Беларусі — $497!

А як бярэцца сярэдні?

Гэта калі начальнік есць мяса, а я капусту, у сярэднім мы ямо галубцы?!

* * *

Людзі, якія лічаць, што беларусы, расейцы і ўкраінцы — адзін народ, не могуць гэтага сказаць ані па-беларуску, ані па-ўкраінску.

* * *

Рэцэпт лянівых галубцоў.

Пункт 1. Ды ну іх, зраблю я сабе «ролтан».

* * *

Сэнсарны мабільнік цяпер не рэагуе на пальцы ў пальчатках? Нос, прыйшоў твой час!

* * *

На прэс-канферэнцыі Лукашэнкі:

— Аляксандр Рыгоравіч, можна вам задаць адно нязручнае пытанне?

— Можна.

— Вы калі-небудзь сыдзеце з пасады прэзідэнта?

— Канечне.

— А калі?

— А гэта ўжо другое пытанне.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вёска Крутой, Магілёўская губерня.** Шалёная котка пакусала надоечы хлопчыкаў-вучняў. Паехалі лячыцца ў Маскву. Шасцёра на свае грошы, а чатыром гаротнікам памагло крыху земства.

**«НН». №2. 1913.**

**Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя»** пачынае рыхтаваць энцыклапедыю «Вялікае Княства Літоўскае». Ужо складзены «Слоўнік ВКЛ», а сама праца над энцыклапедыяй зойме два гады. Ходзяць чуткі, нібыта загад зрабіць такую кніжку прыйшоў з Адміністрацыі прэзідэнта. Аднак генеральны дырэктар выдавецтва Генадзь Пашкоў абвяргае інфармацыю: «Мы самі прынялі гэтае рашэнне».

**«НН». №2. 2003.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8085. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 15.01.2013.
Замова №159.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12